ГАЗЕТА
ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ
БЕЛАРУСІ

# ліm ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

4 сакавіка 1994 г. № 9 (3731) Кошт 50 руб.

# «ЗУСІМ, ЯК НА ПАЧАТКУ 30-Х!..»

***Выступленне Ніла Гілевіча на сесіі Вярхоўнага Савета 2 сакавіка 1994 г.***

У мінулую пятніцу, выступаючы з гэтай трыбуны, дэпутат Сарокін патрабаваў ад Старшыні Вярхоўнага Савета стварыць яшчэ адну парламенцкую камісію. Для чаго? Для расследавання, цытую «фактов пропаганды в средствах массовой информации национализма». Беларускага, вядома. У выніку гэтага расследавання, цытую далей, «оценить роль постоянной комиссии под руководством народного депутата Гилевича. О выводах и предложениях доложить Верховному Совету». Гэта — па-першае. Па-другое, дэпутат Сарокін прадпісвае Старшыні Савета Міністраў, цытую, «рассмотреть целесообразность нахождения на должности Министра образования спадара Гайсенок». /Між іншым, і па-руску ў родным склоне трэба гаварыць: спадара Гайсёнка/.

Чым жа так правініліся міністр і старшыня Камісіі? Тым, што навукова-метадычны часопіс «Пралеска» змясціў публікацыю, шкодную для інтэрнацыянальнага выхавання дзяцей. Мушу заявіць адназначна: я рашуча супроць таго, каб у беларускіх дзяцей, і не толькі ў дзяцей, абуджаць антырускія настроі. Я заўсёды лічыў і лічу найвялікшым злачынствам — сеяць варажнечу паміж людзьмі і народамі. Не сумняваюся, што і міністр Гайсёнак стаіць на гэткіх жа пазіцыях. Як не сумняваюся і ў тым, што пазначаная публікацыя — толькі фармальны повад для каманды «У атаку!». Не паявіся гэта публікацыя — знайшлі б нейкі повад іншы. Тым больш, што ў сённяшняй сітуацыі людзі лёгка зрываюцца і абнародваюць нямала палітычна няўзважаных заяў і проста глупстваў.

Сапраўдная мэта тых, ад чыйго імя выступіў дэпутат Сарокін, — спыніць працэс нацыянальна-дзяржаўнага адраджэння Беларусі. Пакуль ён не набраў сілу — з ім трэба пакончыць! А то і сапраўды можна страціць такі прывабны кавалак «единой и неделимой». Значыць, пара дзейнічаць практычна і канкрэтна.

Апетыт, як вядома, прыходзіць у час яды. Апетыт, відочна, нарастае. Скінулі двух міністраў — мала! Трэба скінуць трэцяга — міністра адукацыі. Скінулі Старшыню Вярхоўнага Савета — мала! Трэба ўзяцца за старшынь пастаянных камісій. Хоць за аднаго — для пачатку. Які раз'ятраны ў таварышаў апетыт! Зусім, як на пачатку 30-х!..

Канешне ж, аднаго дробнага факта мала, каб разгарнуць франтальнае наступленне і здзейсніць свае намеры. Таму робяцца абагульненні маштабныя — на ўсю рэспубліку. А іменна: на Беларусі, паводле дэпутата Сарокіна, аказваецца існуюць і дзейнічаюць цэлыя «национал-фашистские движения», лідэры якіх «активно ведут оголтелую идеологическую обработку молодежи, школьников, студентов»... Ах, гэтыя знаёмыя фразачкі газетных перадавіц! Як яны за 70 гадоў збрыдзелі душы чалавечай! Але да пытання пра нацыянал-фашызм мы яшчэ вернемся. Цяпер жа я паспрабую патлумачыць, чаму мішэнню атакі выбраны іменна міністр адукацыі і старшыня Камісіі Вярхоўнага Савета, якая пытаннямі адукацыі займаецца.

Таварышы-суддзі адчулі першыя рэальныя крокі на шляху аднаўлення беларускай школы ў Беларусі — і спалохаліся, узрушыліся. Закрычалі: Не дапусцім! Не дадзім! Здымем міністра, раз ён не сабатуе, а выконвае Закон аб адукацыі! Паставім другога, свайго — такога, як незабыўная Еўдакія Уралава, якая не знала і двух слоў па-беларуску, але кіравала адукацыяй у нас ажно гадоў дзесяць. Таварышы выдатна разумеюць: будзе беларуская школа — будзе ўсё: будзе і беларуская мова, і беларуская культура, і беларускае справаводства, і беларуская нацыянальная і гістарычная самасвядомасць, і як вынік — будзе беларуская дзяржава. У тысячны раз пытаюся ў грамадзян — такіх, як дэпутат Сарокін: ці знаеце вы, што к пачатку 80-х гадоў ні ў адным горадзе, ні ў адным гарадскім пасёлку, ні ў адным рабочым пасёлку на Беларусі не засталося ніводнай беларускай школы? Ні школы, ні класа, ні паўкласа, ні чвэрцькласа! Знаеце? Дык чаму вы не крычалі тады, што за гэта злачынства перад народам трэба зняць з пасады і міністра адукацыі, і старшыню Камісіі Вярхоўнага Савета, і сакратара ЦК, і ўсіх іншых, па чыёй віне яно тварылася? Вы не крычалі, таму што вас цалкам задавальняла гэта.

*(Працяг на стар. 3)*




# ДОБРАЯ ФЕЯ ДАВТа

***Сёння ў Лідзіі Міхайлаўны Ражанавай дзень нараджэння. Юбілей. Колішнюю «зорку» балета /а народная артыстка Беларусі Л. Ражанава станцавала на сцэне ДАВТа вядучыя партыі ў «Жызэлі» ды «Баядэрцы», у «Лебядзіным возеры» ды «Палымяных сэрцах», у «Дон Кіхоце» ды «Спартаку» і г. д./ можна павіншаваць з рэдкасным сярод людзей такой прафесіі творчым даўгалеццем. З 1947 па 1968 г. яна была салісткай беларускага балета, але й потым з тэатрам не разлучылася: вось ужо чвэрць веку ўзначальвае музей ДАВТа. Як добрая фея, захоўвае яна памяць тэатра, гістарычныя дакументы, афішы, газетныя публікацыі, фотаздымкі... Рухавая, падцягнутая, пунктуальная, Лідзія Міхайлаўна ў авангардзе ўсіх тэатральных падзей, можна сказаць, што з яе дзейсным удзелам пішацца летапіс беларускага музычна-сцэнічнага мастацтва, яго цяперашніх набыткаў ды праблем. Між іншым, фотаздымкі з оперных і балетных спектакляў, зробленыя па заказе Л. Ражанавай, неаднойчы выручалі і нашу газету: часам «музей Ражанавай» спрацоўваў больш аператыўна, чым прафесійныя руплiўцы фотахронікі. Лідзія Міхайлаўна — незаменны чалавек, аказваецца, не толькі для тэатра. Ну, а для тэатра — тым больш...***

# ЛІМ КОЛА ДЗЁН

***Скончыліся XVII зімовыя Алімпійскія гульні. Для нашай краіны яны сталі падзеяй не толькі спартыўнай, але і палітычнай. Ужо ў Барселоне, два гады назад, беларускія спартсмены выступалі пад сваім сцягам, хоць і ў складзе аб'яднанай каманды СНД, цяпер жа Беларусь упершыню была прадстаўлена асобнай камандай. Раней нашы перамогі былі перамогамі «савецкага спорту»; а паколькі для ўсяго свету «СССР» і «Расія» былі сінонімамі, дык і працавалі мы на чужую славу, не на свой прэстыж.***

***Сёння шмат хто спрабуе пераканаць беларусаў, што яны «те же русские», што зямля іхняя — «та же Россия, — только западная». Алімпіяда сцвярджае адваротнае: беларусы і ў Еўропе не апошнія людзі, Беларусь някепска глядзіцца і на святочнай імпрэзе сусветнай супольнасці.***

***Калі ў часе тэлерэпартажаў з алімпійскіх спаборніцтваў, у якіх бралі ўдзел нашы спартсмены, на экране з'яўляліся бел-чырвона-белы сцяжок і літары «BLR», а далей прозвішча спартсмена, — у гэты момант рэальны змест набываў дэвіз «Алімпіяда — не толькі для алімпійцаў!»***

***67 краін прыслалі ў Ліллехамер сваіх спартсменаў. 22 каманды заваявалі алімпійскія ўзнагароды, у гэтым элітарным спісе Беларусь з двума сярэбранымі медалямі займае пятнаццаты радок.***

### ЗАГАЛОВАК ТЫДНЯ

«Не может быть капитализма в магазине и социализма на заводе» /«Народная газета», 2 сакавіка/

### АМНІСТЫЯ ТЫДНЯ

Дзяржаўная Дума Расійскай Федэрацыі прыняла рашэнне аб амністыі кіраўнікоў мецяжоў 1991 і 1993 гадоў. У сувязі з гэтым можна прыгадаць словы амерыканскага пісьменніка Амбраза Бірса: «Амністыя — гэта велікадушнасць дзяржавы ў адносінах да злачынцаў, пакараць якіх ёй не па кішэні».

### ТРАГЕДЫЯ ТЫДНЯ

У горадзе Хеўрон /на заходнім беразе Іардана/ пасяленец, апрануты ў форму ізраільскай арміі, адкрыў агонь па палесцінцах, якія сабраліся на малітву. Забіта 45 чалавек, звыш 80 паранена. Ізраільска-палесцінскі дыялог пад пагрозаю.

### ЗАНЕПАКОЕНАСЦЬ ТЫДНЯ

Колькасць расійскіх войск у Калінінградскай вобласці працягвае павялічвацца. Занепакоенасць з гэтай нагоды выказалі на латвійска-польскіх перамовах прэм'ер-міністр Валдыс Біркаўс і прэзідэнт Лех Валенса.

### СТРАЙК ТЫДНЯ

У Расіі прайшоў папераджальны агульнанацыянальны страйк шахцёраў. Гарнякі патрабавалі выплаціць задоўжаную зарплату. Былі і палітычныя патрабаванні: адстаўка ўрада, які не выконвае сваіх абяцанняў.

### АСАРТЫМЕНТ ТЫДНЯ

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў зацвердзіў спіс аб'ектаў камунальнай уласнасці, што маюць быць прыватызаваны сёлета. Сярод іх — універсам «Рыга», ГУМ, універмаг «Беларусь», крама «Несцерка», рэстараны «Мінск», «Беларусь», «Свіцязь», шэраг прамысловых прадпрыемстваў.

### СВЯТА ТЫДНЯ

4 сакавіка другі раз святкуецца Дзень беларускай міліцыі. У гэты дзень на плошчы Незалежнасці — урачыстае прынясце прысягі, потым шэсце па праспекце Скарыны і ўскладанне кветак на плошчы Перамогі. Другі раз улады скарыстоўваюць сцэнарый, распрацаваны Беларускім згуртаваннем вайскоўцаў яшчэ летась для 8 верасня — Дня Беларускай вайсковай славы. Напярэдадні Дня міліцыі міністр унутраных спраў атрымаў з рук прэм'ер-міністра новы міліцэйскі сцяг. На ім — Дзяржаўны Герб і эмблема міліцыі, а таксама дэвіз «Законнасць, справядлівасць і гуманізм».

### МАРА ТЫДНЯ

Прадпрымальнік з Мінска А. Клімаў лічыць, што праз пяць год з'явіцца на свет беларускі легкавы аўтамабіль. Ён плануе стварыць акцыянернае таварыства, закупіць абсталяванне ў Нямеччыне і Брытаніі, загрузіць магутнасці шэрагу нашых прадпрыемстваў. Аб'яўлены конкурс на канструктыўную ідэю і на назву аўтамабіля. Прыгадваецца, што нешта падобнае накont беларускага легкавіка ўжо гаварыў В. Кебіч.

### КУРС ТЫДНЯ

Нацыянальны банк Беларусі паведаміў, што для разлікаў па негандлёвых аперацыях з Расіяй устанаўліваецца спецыяльны абменны курс беларускага і расійскага рублёў. Курс гэты будзе штотыдзень мяняцца. На тыдзень, што пачаўся 28 лютага, курс вызначаны як 3,6:1. Дзе абяцанае 1:1?

### «ІНТЭГРАЦЫЯ» ТЫДНЯ

Ёсць дамоўленасць аб тым, што Беларусь будзе прадстаўлена ў Радзе міністраў абароны СНД і ў штабе па каардынацыі ваеннага супрацоўніцтва. Акрамя таго, міністры абароны Беларусі і Расіі падпісалі дамоўленасць аб узаемадзеянні дзяжурных сіл супрацьпаветранай абароны дзвюх краін. Беларусь па-ранейшаму будзе сцерагчы неба Масквы. На нашай зямлі па-ранейшаму праходзіць першы рубеж іхняй абароны.

### ЦЫТАТА ТЫДНЯ

«Прыхільнікі ўвядзення расійскага рубля на тэрыторыі Беларусі як з беларускага, так і з расійскага боку, хутчэй зыходзяць з палітычнай настальгіі па мінуламу /г. зн. жадаюць вярнуцца да эканамічнага, а можа, і палітычнага ладу былога СССР/, чым кіруюцца разумным эканамічным разлікам.

/.../ Існуе чыста палітычная небяспека, што тыя самыя беларускія палітыкі, якія сёння робяць уціск у разліку на хуткае злучэнне грашовых сістэм, у недалёкай будучыні будуць указваць на Расію як віноўніцу эканамічнага крызісу ў іхняй краіне. А такі крызіс падаецца непазбежным у сітуацыі, адсутнасці праграмы эканамічных рэформ і барацьбы з інфляцыяй сённяшняга беларускага ўрада. /.../ Нягледзячы на адносны «поспех» расійскага рубля ў параўнанні з беларускім «зайчыкам» у 1993 годзе, гэты першы ніколі не карыстаўся рэпутацыяй стабільнай і надзейнай валюты. /.../ Можа здарыцца так, што калі дагавор аб грашовым саюзе будзе канчаткова ўзгоднены, Беларусь разам з расійскім рублём падключыцца да расійскай інфляцыі. Ужо неаднойчы атрымлівалася так, што за прафесійную непісьменнасць і палітычныя ілюзіі сваіх урадаў эканамічную цану плаціла грамадства. Так можа здарыцца і цяпер».

*/Марэк Дамброўскі. «Беларуская наменклатура бачыць у расійскім рублі выратавальны круг», «Известия», 25 лютага/.*



З нагоды

# КАЗЫРНЫ ТУЗ КРАПЛЁНАЙ КАЛОДЫ

***У Савецкім Саюзе прэзідэнцтва рабілася пад Гарбачова, у Расійскай Федэрацыі — пад Ельцына. У нашай краіне наменклатурная большасць Вярхоўнага Савета галасавала за ўвядзенне на Беларусі інстытута прэзідэнцтва, маючы на ўвазе, што гэтую пасаду зойме Кебіч.***

Не будзем гаварыць пра саму працэдуру расцягнутага ў часе «тайнага галасавання іменнымі бюлетэнямі». Такога ў гісторыі парламентарызму яшчэ не бывала. Але і такога парламента, як наш, не было ў гісторыі.

Калі параўнаць палітыку з азартнай гульнёй, дык я б сказаў, што Вярхоўны Савет Беларусі ўжо даўно гуляе краплёнымі картамі. Цяпер на стол выклалі апошні козыр /туз!/ — прэзідэнцтва. І калі народ прагліне і гэта, як праглынуў супрацьзаконную забарону рэферэндуму, далучэнне нашай нейтральнай краіны да «коллективной безопасности», кадравыя разборкі ў авальнай зале Вярхоўнага Савета, што адкрылі шлях да дыктатуры, — тады ў хуткім часе можна будзе паставіць крыж на незалежнасці, а значыць, і развітацца з марамі аб спакойным і заможным жыцці.

Спадар Кебіч і сёння мае амаль неабмежаваную ўладу. Выступаючы ў аўторак з трыбуны Вярхоўнага Савета, ён пра гэта вельмі красамоўна сказаў /дакладней, абмовіўся/: «Это /гаворка ішла пра адну з праблем/ Совет Министров решает вместе с другими заинтересованными странами». Так і ёсць, Саўмін — краіна ў краіне, дзяржава ў дзяржаве. Часам здаецца, што юрысдыкцыя Рэспублікі Беларусь на гэту ўстанову не распаўсюджваецца.

Ужо бачыць прэм'ер-міністра прэзідэнтам спадар Антановіч, былы член ЦК КПБ, а цяпер дырэктар Беларускага інстытута інфармацыі і прагнозу. У інтэрв'ю, надрукаваным 26 лютага ў «Звяздзе», ён, у прыватнасці, гаворыць: «Думаю, па палітычным вопыце, па дзяржаўнай мудрасці альтэрнатывы Кебічу няма». Ды і само прыгаданае вышэй выступленне прэм'ер-міністра трэба разглядаць у кантэксце перадвыбарчай кампаніі. В. Кебіч гаварыў пра рэфармаванне ўрада. У мяне склалася ўражанне, што гэта праграма, разлічаная на прапагандысцкі эфект. Галоўная мэта: каб «ваўкі» /грамадства, незадаволенае разбуханнем дзяржаўнага апарату/ былі сытыя і «авечкі» /свае людзі ў міністэрствах і ведамствах/ былі цэлыя. Скажам, «скарачаецца» міністэрства, а на яго месцы ў сістэме Саўміна ствараецца акцыянернае таварыства. З двух «маленькіх» міністэрстваў робіцца адно «вялікае». Альбо аддзеламі расфармаванага міністэрства «ўзмацняюцца» іншыя міністэрствы і камітэты. Спадар Кебіч сказаў, што пасля рэфармавання дзяржава атрымае значную эканомію па зарплаце. Але паколькі ніводны са «скарочаных» чыноўнікаў без працы /у той жа сістэме/ не застанецца, дык трэба зрабіць выснову, што іхняя зарплата проста будзе ісці па іншай ведамасці.

А галоўнае, гэта тое, што сілавыя міністэрствы павінны быць падпарадкаваны Старшыні Савета Міністраў /пакуль што КДБ падсправаздачны Вярхоўнаму Савету/.

Вось такая праграма, вось з чым прэм'ер-міністр ідзе на прэзідэнцкія выбары. У эканоміцы — «рублёвая зона», у знешняй палітыцы — «коллективная безопасность».

Між тым расійскае кіраўніцтва сёння не спяшаецца з «аб'яднаннем» грашовых сістэм Расіі і Беларусі. Прэзідэнт Ельцын у пасланні Федэральнаму Сходу назваў праблему складанай, але саму ідэю вартай увагі і ў палітычным сэнсе для Расіі вельмі карыснай. Аднак заявы самі па сабе, а адказнасць за рэальную палітыку нясе выканаўчая ўлада — Чарнамырдзін. А ён якраз і не хоча рызыкаваць у гэтым небяспечным прадпрыемстве сваім аўтарытэтам і пасадай. Як ён растлумачыць шахцёрам Варкуты, маракам Уладзівастока, рабочым расійскай «абаронкі» тую акалічнасць, што з-за адсутнасці грашовай масы па тры-чатыры месяцы яны не атрымліваюць зарплату, а ўрад Расіі кідае рублі на стабілізацыю эканомікі Рэспублікі Беларусь? Нездарма расійскія парламентарыі ўголас гавораць, што ўмовай аб'яднання грашовых сістэм павінна быць палітычнае аб'яднанне дзвюх краін /чытай, далучэнне Беларусі да РФ у якасці суб'екта федэрацыі/.

Вяртаючыся да прэзідэнцтва на Беларусі, адзначу, што праблему для Кебіча ў гэтай галіне стварае не толькі Масква, якая вагаецца, браць ці не браць нашага прэм'ера ў рублёвую зону, спрыяць ці не спрыяць у часе прэзідэнцкіх выбараў на Беларусі часовай стабілізацыі ці нават паляпшэнню эканамічнага стану нашай краіны. Стварае праблему, так бы мовіць, і блізкае асяроддзе. Браты па класе, як казалі ў бальшавіцкі час. Той жа самы, скажам, Аляксандр Лукашэнка. Калісьці казалі, што вартых жалю вучань, які не пераўзыходзіць свайго настаўніка. Спадар Лукашэнка добра засвоіў урокі спадара Кебіча, а ў нечым нават і пераўзышоў настаўніка. Акрамя таго, ён адчувае сябе пакрыўджаным. Пасля паспяховай кампаніі супраць Шушкевіча Лукашэнку, як маўра, які зрабіў сваю справу, паспрабавалі адсунуць у цень. Далі зразумець, што з карупцыяй у нашай дзяржаве пакончана. Між тым, Лукашэнка толькі-толькі адчуў сябе героем і развітвацца з іміджам галоўнага барацьбіта супраць мафіі не збіраецца. Больш таго, на гэтай хвалі ён, мабыць, паспрабуе ўехаць у прэзідэнцкае крэсла. Вось праблема і для Кебіча. Гэта не пажылы спікер, гэта адносна малады палітык, перад якім нечакана адкрыліся выключныя магчымасці для самарэалізацыі. Саўмінаўскі перапалох з гэтай нагоды адлюстраваны ў інтэрв'ю Антановіча, пра якое гаварылася раней.

Не скончана яшчэ палітычная кар'ера і Станіслава Шушкевіча. І ён паспрабуе скарыстаць свой шанц, абапіраючыся на падораны яму лёсам і палітычнымі абставінамі вобраз пакутніка. Можа, нешта і атрымаецца, калі толькі сп. Шушкевіч і тыя, хто разам не пераграе са «згодай».

Пакуль што маўчыць Беларускі народны фронт. Але відавочна, што ён не застанецца ўбаку ад падзей. Прэзідэнцкія выбары будуць, і наменклатура паспрабуе згуляць сваю апошнюю гульню. І тут ужо трэба думаць нам усім, каб у выніку не атрымаць на бліжэйшыя пяць /ці колькі там/ гадоў «дурня».

**Пётра ВАСІЛЕЎСКІ**

# ДАРОГА ДА ХРАМА СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ

***Наш карэспандэнт гутарыць з Валянцінай КОЎТУН, прэзідэнтам Усебеларускага жаночага фонду Еўфрасінні Полацкай***

**— Шаноўная спадарыня Валянціна. У прэсе ўжо была інфармацыя пра тое, што ў рэспубліцы створана унікальная грамадская арганізацыя — Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай. Сярод яе заснавальнікаў, мяркую, не толькі жанчыны розных прафесій, але і розных жыццёвых поглядаў?**

— Для пачатку назаву некаторых ініцыятараў стварэння фонду. Гэта народная артыстка Беларусі Марыя Захарэвіч, скульптар Святлага Гарбунова, пісьменніцы Святлана Алексіевіч і Людміла Хейдарава, кіраўніца монатэатра «Зніч» актрыса Галіна Дзягілева, выкладчыцы ВНУ Ала Кавун, Яўгенія Касцюкавец, Ніна Іванова. Нашы думкі падзяляюць кнігавыдавец Ірына Бароўская, кампазітар Галіна Гарэлава, народная артыстка Стэфанія Станюта, мастачка Наталля Паплаўская...

**— Бачу, вы намерваецеся яшчэ і яшчэ называць імёны тых, каго ведаюць не толькі ў творчых і навуковых колах, але ўвогуле ў рэспубліцы. І ўсё ж — як адносна жыццёвых поглядаў? Бо кожная з жанчын, пра якіх вы гаворыце — Асоба! А таму ўзаемаадносіны і супольніцтва маюць свае моцныя бакі, але, пэўна, і складанасці?**

— Адкажу коратка: нас аб'ядноўвае адна дарога, агульная дарога да Храма святой Еўфрасінні Полацкай. І яшчэ — вялікая любоў кожнай найперш да сваёй працы, да Чалавека... Вось чаму пры вызначэнні мэт і задач фонду мы сыходзілі найперш з дзейнасці нашай найпадобнай патронкі — заступніцы Беларусі перад Богам, славутай асветніцы, міласэрнай падзвіжніцы і мірatворкі, рэфарматаркі нацыянальнай культуры і мастацтва.

**— Цікава было б даведацца пра галоўныя накірункі дзейнасці, закладзеныя ў Статут фонду.**

— Вось тут мушу перайсці на крыху пратакольны стыль. Наша мэта, найперш — садзейнічаць развіццю нацыянальнай культуры, навукі, хрысціянскіх традыцый дзеля духоўнага адраджэння народа. І яшчэ — аб'яднанне прагрэсіўных грамадскіх жаночых арганізацый. Аб'ядноўваць сілы, справы, надзеі, перасякаючы нацыянальныя, палітычныя і іншыя бар'еры!

**— Гэта што, пошукі вялікай дарогі да Храма, пра які ўжо гаварылася?**

— Мяркую, знайсці такую дарогу цяпер вельмі важна. Апошнія міжнародныя падзеі, пастаянныя ўзрывы сплаў агню і крыві ў розных кутках планеты закідваюць і ў нашу свядомасць, у наша беларускае грамадства знішчальны «вірус расколу». Мая трывога мае даволі канкрэтныя падставы. Вядомы ўсяму свету прадмет эканамічных і палітычных канфліктаў у Беларусі пагражае набыць кантрастную рэлігійную афарбоўку. Трывогу гэтую грунтуе не толькі гістарычны вопыт народа, але і пагрозлівыя факты дня сённяшняга. Беларусь — цэнтр Еўропы, своеасаблівы мост паміж захадам і ўсходам. Вось чаму «дынаміт» падобных канфліктаў на такім геапалітычным мосце небяспечны асабліва.

**— Бачу, мы зноў прыйшлі да пошукаў Дарогі. Тады, калі коратка, што складае аснову дзейнасці фонду?**

— Калі сапраўды коратка, то галоўная наша праграма скіравана на **гуманізацыю** розных варункаў і сфер жыцця. Не раскол народа, а менавіта яднанне — вось наша галоўная палітыка. Зрэшты, гэта павінна б стаць палітыкай і практыкай усіх, хто па-сапраўднаму заклапочаны будучым Беларусі і духоўным адраджэннем нацыі.

**— Прызнаюся, міжволі ўзнікае думка, што фонд Еўфрасінні, згуртаваўшы лепшыя творчыя сілы, можа, урэшце, стаць**

# «ЗУСІМ, ЯК НА ПАЧАТКУ 30-Х!..»

*(Пачатак на стар. 1)*

Вы лічылі гэта зусім нармальным. Хіба не так? Скажыце: Ну, а калі б у Расіі ні ў адным горадзе не засталося ні адной рускай школы? Як бы вы на гэта паглядзелі? Гэта было б нармальна? Упэўнен, што ў гэту хвіліну сёй-той з нашых доблесных грамадзян падумаў: «Ну-у, сравнил! С великим и могучим русским он сравнил... Смешно!» А вось у гэтым «ну, сравнил», шаноўныя, і ёсць самы сапраўдны нацыянал-фашызм, — і не мае значэння, якога ён паходжання: нямецкага, ці італьянскага, ці рускага... Таму што такія пагардлівыя адносіны да мовы народа — гэта чысцейшай вады расізм, а расізм ляжыць у аснове фашысцкай ідэалогіі.

І вось цяпер, калі мы ўзяліся, з Божае ласкі, за адраджэнне сваёй мовы і культуры, за будаванне сваёй уласнай дзяржавы — вы, як і 60 гадоў назад, закрычалі пра разгул беларускага нацыянал-фашызму на Беларусі. І ў чым жа вы гэты нацыянал-фашызм убачылі? У тым, што аднаўляюцца, у свой час гвалтоўна зрусіфікаваныя, беларускія школы? У тым, што мы самі, не пад нейчую дыктоўку, а самастойна пішам аб'ектыўную, праўдзівую гісторыю свайго народа?

Шаноўныя дэпутаты! У 1931 годзе ў Мінску выйшла адна з самых подлых кніг у гісторыі беларускага кнігадрукавання. Называецца яна: «Навука» на службе нацдэмаўскай контррэвалюцыі». У гэтай кнізе вы многа-многа разоў знойдзеце фразу «беларускі нацыянал-фашызм» і «беларускія нацыянал-фашысты». Гэта страшэннае кляймо ставілася на імёны самых сумленных, самых светлых, самых таленавітых, самых выдатных сыноў і дачок беларускага народа. На працягу некалькіх наступных гадоў — з 1931 па 1938 — тысячы кляймёных гэтым кляймом беларускіх інтэлігентаў былі рэпрэсіраваны і амаль усе загінулі — хто на Салаўках, хто на Калыме, а хто тут, у Беларусі, у такіх урочышчах, як Курапаты. У тым ліку, пайшлі ў магілу многія з тых, хто памагаў «суддзям», і з тых, што гэты зверскі, самапраўны суд чынілі. Як, напрыклад, і рэдактар гэтай жахлівай кнігі. /Дарэчы, яе трэба перавыдаць, дый масавым тыражом, каб кожны мог пачытаць і ўбачыць, да якіх маштабаў быў даведзены ў нас пагром нацыянальнай інтэлігенцыі, як пачынаў ажыццяўляцца на Беларусі нацыянальны генацыд/.

І вось, здаецца, гісторыя вяртаецца «на кругі свая». Дакладней, яе хочуць павярнуць туды — назад, да 37-га. Лозунг гатовы даўно: «Смерць беларускаму нацыяналізму!» — што трэба чытаць, як «Смерць нацыянальнаму адраджэнню Беларусі!» Пачалося і ажыццяўленне лозунга на практыцы. Свае прапановы зрабіў і дэпутат-генерал Сарокін: стварыць камісію Вярхоўнага Савета па вывучэнню фактаў прапаганды беларускага нацыяналізму і вызваліць ад займаемых пасад народнага дэпутата Гілевіча і міністра адукацыі Гайсёнка.

Шаноўныя дэпутаты! Дазвольце і мне звярнуцца з афіцыйнай просьбай да Старшыні Вярхоўнага Савета. У інтэрв'ю газеце «Звязда» былы член палітбюро Расійскай кампартыі прафесар Антановіч сваё вяртанне ў родны дом, у Беларусь, патлумачыў тым, што «расійскія камуністы пайшлі ў бок вялікадзяржаўнага шавінізму». Красамоўнае прызнанне! Гэта — у Расіі. У нас жа, у Беларусі, не толькі камуністы, але і многія іншыя, партыйныя і беспартыйныя грамадзяне, як ішлі, так і ідуць у гэты самы запаветны бок, ваяўніча выступаюць з пазіцый вялікадзяржаўнага шавінізму. У многіх газетах, што выходзяць у Беларусі, у тым ліку і за дзяржаўны кошт, змяшчаюцца публікацыі, у якіх абражаецца нацыянальнае пачуццё беларуса, зневажаецца сама Рэспубліка Беларусь, яе дзяржаўныя сімвалы. У гэтых публікацыях сцвярджаецца, што беларускага народа наогул ніколі не было і няма, што беларуская мова — толькі дыялект рускай, што ўтварэнне незалежнай дзяржавы Рэспубліка Беларусь — нонсенс, які трэба ліквідаваць і г. д. і г. д. Усё гэта, як вы разумееце, спрацоўвае адпаведным чынам — а іменна: глыбока крыўдзіць беларусаў, абражае нацыянальную годнасць народа, а з крыўды і абразы нічога, апрача адчужэння і варожасці, не вырастае. Дык хто ж сее ў нашым грамадстве нацыянальную варажнечу? Хто займаецца прапагандай нацыянал-фашызму ці шавінізму? — як яго ні назаві, гэта адно і тое ж: нялюдская, антычалавечая ідэалогія.

Нягледзячы на ўсё гэта, яшчэ ніводзін сумленны рускамоўны грамадзянін не адчуў, што яму, ратуючыся ад нацыяналістычнай небяспекі, трэба з Беларусі ўцякаць. Не адчуў і не адчуе! Такой небяспекі ні для якой нацыянальнай меншасці ў нас няма і не будзе. Небяспеку можа адчуць толькі той, хто лічыць, што цярпенне беларускага народа можна выпрабоўваць бясконца.

Вось чаму прашу Старшыню Вярхоўнага Савета стварыць парламенцкую камісію па расследаванні фактаў прапаганды ў сродках масавай інфармацыі вялікадзяржаўнага шавінізму і распальвання настрояў, варожых да Беларускай дзяржавы і яе законаў, у тым ліку — да прынятых у гэтай зале законаў.



**Рэдакцыя часопіса «Мастацтва» пераехала ў новае памяшканне па адрасе: 220029, Мінск, вул. Чычэрына, 1. Тэл. 76-94-67, 76-94-68**

**своеасаблівым правадніком міжнародных гуманістычных ідэй.**

— Для гэтага трэба будзе прыкласці немалыя намаганні. Але мара, па-мойму, таксама вялікая дзейсная сіла, дзейсная энергія. Хочацца спадзявацца і марыць. Дзеля сапраўднай годнай справы.

**— Аднак час нагадаць, што фонд — жаночы.**

— І гэта цудоўна. Жанчыны Беларусі — з'ява гістарычна фенаменальная. Доўгія дзесяцігоддзі нашы жанчыны неслі на сваіх плячах галоўны цяжар сацыяльнага і працоўнага ўціску рэжыму. Жанчына была пазбаўлена самага галоўнага права — права на сапраўдную чалавечую годнасць і незалежнасць. Зневажалася асоба маці, жонкі, захавальніцы народнай маралі. І ўсё-такі беларуская жанчына зберагла ў сабе вялікую духоўную цноту, нацыянальную мудрасць і дабрыню, сацыяльны вопыт народа.

**— Згаджаюся з тым, што памылкі палітыкаў заўсёды найперш адбіваліся на лёсе нашай жанчыны, на лёсе яе дзяцей, увогуле на асновах сямейнага ладу. Але ж цяпер настаў іншы час...**

— Не думаю, што час асабліва спрыяльны для ўсталявання сапраўднай нацыянальнай і чалавечай годнасці ў нашым грамадстве. І ўсё ж гісторыя распарадзілася так, што цяпер беларуская жанчына сапраўды можа /і павінна !/ стаць у цэнтр пераўтваральных падзей. Мы перажылі дзесяцігоддзі гіперінфляцыі нацыянальных духоўных і хрысціянскіх каштоўнасцей. Настае пара перагляду сваіх жыццёвых арыенціраў. Цяжкасці Беларусі, на маю думку, найперш уплываюць на жыццёвыя цяжкасці жанчын. Лёс Беларусі — лёс яе жанчын, як галоўных носьбітак нацыянальных, духоўных і сацыяльных набыткаў грамадства. А грамадству патрэбны грунтоўныя прагрэсіўныя духоўна-асветніцкія рэформы.

**— І вы верыце, што такія рэформы ў нас стануць рэальнасцю?**

— Веру, што грамадства няўхільна рушыць да ўнутранага разумення самага важнага: без клопату пра кожнага асобнага чалавека не можа быць зроблены ніводны крок нацыі да Прагрэсу. Таму адна з нашых сутнасных задач — адстойваць права кожнага на годнае незалежнае духоўнае і культурнае існаванне. І яшчэ, вядома, весці грамадства да разумення сапраўднай ролі жанчыны. Жанчыны-маці, сястры, ахоўніцы сям'і, асветніцы, працаўніцы, выхавацелькі.

**— Спадарыня Валянціна, хаця фонд толькі распачынае дзейнасць, але крыху пра канкрэтныя дзеі.**

— Хачу сказаць пра ўтварэнне пры Фондзе Нацыянальнага дзіцячага цэнтра Еўфрасінні Полацкай, які скіраваны найперш на аказанне дапамогі юным талентам, а таксама на дапамогу дзецям, падлеткам, якія з маленства спазналі горыч ад слова «калека», «інвалід». Дарэчы, у нашым статуце ёсць такія пункты, як: аказанне дапамогі ў пабудове дзіцячых устаноў, храмаў, дамоў міласэрнасці, аказанне дапамогі культурна-асветніцкім гімназіям, нацыянальным дзіцячым галерэям і г. д.

**— Над чым фонд працуе менавіта цяпер, якое мерапрыемства рыхтуе?**

— Гэта хутчэй не проста мерапрыемства, а важнейшая духоўная і культурна-асветніцкая ідэя, важная для ўсяго нашага грамадства. Маю на ўвазе тое, што фонд выходзіць з ініцыятываю правядзення 5 чэрвеня АГУЛЬНАНАРОДНАГА ДНЯ СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ.

**— І якія задачы з гэтай нагоды ставяцца фондам?**

— Па-першае, ушанаванне памяці і справы найпадобнай Еўфрасінні Полацкай. Распрацоўваецца праграма падрыхтоўкі і правядзення дзеі: выпуск разнастайнай кніжнай прадукцыі, правядзенне выставы фрэсак і мастацкіх твораў, музычныя мерапрыемствы. Зрэшты, хачу прасіць кожнага, хто зацікавіцца гэтай дзеяй, дасылаць у фонд свае прапановы і ідэі. Акрамя ўсяго, мяркуем, што святло святой Еўфрасінні Полацкай павінна прыйсці не толькі да асобных людзей, але і да грамадскіх суполак, калектываў. І няхай сэрцы нашы будуць шчыра адкрыты для прыняцця гэтага святла. Дзеля ўсенароднага яднання. Ёсць надзея, што ўсе мы будзем удзельнікамі ўгрунтавання духоўна-асветніцкай **традыцыі**, якая цяпер вельмі патрэбна нашай Беларусі.

**— Думаю, што гэтую ініцыятыву фонду падтрымаюць самыя шырокія колы насельніцтва. Асабліва жанчыны.**

— Тут у мяне спадзяванне таксама і на мужчын: дзеячаў культуры, навукі, на палітыкаў, грамадскіх дзеячаў, прадпрымальнікаў. Кожны павінен зразумець, што ўсё, аддадзенае АГУЛЬНАНАРОДНАМУ ДНЮ СВЯТОЙ ЕЎФРАСІННІ ПОЛАЦКАЙ, будзе належаць таксама вашай маці, вашай дачцэ, сястры, жонцы, вашай унучцы, мінуламу, сённяшняму і будучаму Беларусі. Таму Усебеларускі жаночы фонд Еўфрасінні Полацкай чакае падтрымкі і спадзяецца на дапамогу ўсіх, чыё сэрца напоўнена болем і клопатам пра лёс Радзімы-маці.

Нашы каардынаты: 220123 Мінск, вул. Веры Харужай, д. 10, корп. 2, кв. 17. Тэл. 76-94-58. Разліковы рахунак N 700873 у АКБ «Беларусь», вул. Берсана, 16.

# ВАНДЭЙЦЫ НЕ ДАРУЮЦЬ ЯМУ І СЁННЯ

## СЛОВА НА САРАКАВІНАХ АЛЕСЯ АДАМОВІЧА

***Гэты артыкул быў напісаны яшчэ ў мінулым годзе, недзе пад канец лістапада, па просьбе аднаго з работнікаў рэдакцыі газеты «Рэспубліка», якая за некалькі тыдняў перад тым надрукавала артыкул журналіста Я. Росцікава «Урокі Вандэі, альбо Чаму Аляксандр Салжаніцын не згодны з Алесем Адамовічам». Мне было прапанавана адказаць журналісту, прычым адным з матываў гэтай прапановы было тое, што, як мне сказаў «заказчык», у самой рэдакцыі «Рэспублікі» многія абураны пазіцыяй Я. Росцікава, аднак выступіць з уласнымі пярэчаннямі ніхто не можа, паколькі гэта супярэчыла б унутрырэдакцыйнай этыцы. А я чалавек збоку, няштатны аўтар, і таму рукі ў мяне свабодныя.***

***Я згадзіўся, не мог не згадзіцца, хоць з самага пачатку сумняваўся ў тым, што «Рэспубліка» надрукуе мой артыкул, што яна адважыцца выставіць сябе унтэр-афіцэрскай удавой. І не памыліўся: пры жыцці Алеся Адамовіча артыкул, якому я даў назву «Сваяцкія гены, альбо яшчэ пра «Вандэю», ніхто здаваць у набор не спяшаўся. Так бы ён, відаць, і праляжаў бы ў рэдакцыі яшчэ нейкі час, пасля чаго мне прапанавалі б яго забраць: маўляў, матэрыял састарэў, друкаваць яго ўжо не варта. Рэдакцыя просіць прабачэння і г. д...***

***А 26-га студзеня з Масквы прыйшла трагічная вестка — Алесь Адамовіч раптоўна памёр. І літаральна на другі ці трэці дзень мне пазванілі з рэдакцыі «Рэспублікі» і сказалі, што мой артыкул запланаваны ў бліжэйшы нумар. Але разам з рэдакцыйным каментарыем да яго: рэдакцыя не збіраецца здаваць пазіцыі і выступіць у абарону «чысціні свайго мундзіра».***

***Я не ведаю, на якіх прынцыпах пабудавана ў рэдакцыі «Рэспублікі» ўнутрырэдакцыйная этыка. Але я ведаю, што непрыстойна, агідна — займацца «боксам» над свежай магілай. Я ведаю, што калі чалавек памірае, тым больш такі значны, знакаміты, вядомы ўсяму свету чалавек, то нармальныя, прыстойныя людзі здымаюць над яго трунай шапку нават і тады, калі нябожчык не быў іх аднадумцам, іх другам. А гэтым карцела патаптацца на мёртвым!.. І мой артыкул, які яны збіраліся пахаваць пры жывым Адамовічу, цяпер паслужыў для іх зачэпкай для цкавання нябожчыка. Так, ва ўсякім разе, усё гэта выглядала. І не магло выглядаць інакш. Таму я забраў артыкул. І сёння прапаную яго чытачам «ЛіМа» — як слова на саракавінах па Алесю. На саракавінах, якія прыпадаюць на 6-ае сакавіка...***

Журналіст Яўген Росцікаў дужа пакрыўджаны на пісьменніка Алеся Адамовіча. Пакрыўджаны і сярдзіты. Прычым крыўда ягоная не толькі асабістая. Яму, Росцікаву, за ўсю дзяржаву крыўдна, за Беларусь, якую Алесь Адамовіч пяць год назад назваў «Вандэяй», а яе грамадзян, адпаведна, «вандэйцамі». Рахунак за гэту крыўду журналіст прад'яўляе пісьменніку ў сваім артыкуле «Урокі Вандэі, альбо Чаму Аляксандр Салжаніцын не згодны з Алесем Адамовічам», які быў надрукаваны ў газеце «Рэспубліка» 26 кастрычніка 1993 года.

Натуральна, узнікае пытанне: чаму так позна? Чаму журналіст маўчаў усе гэтыя пяць год? Мне здаецца, таму, што проста не ведаў, што гэта такое — Вандэя, паколькі, як сказаў расійскі класік, «мы все учились понемногу чему-нибудь и как-нибудь», з прычыны чаго кепска засвоілі школьныя навукі, у тым ліку і гісторыю. А па Адамовічу выходзіла, што Вандэя — гэта нешта вельмі дрэннае, што быць вандэйцам нядобра, сорамна. На што журналісту і ўказвалі «так званыя дэмакраты», розныя «бэнээфаўцы» і іншыя «экстрэмісты», якія распладзіліся ў гады «так званай перабудовы» і падхапілі кінутае Адамовічам слова. Бывала, ледзь штонебудзь супраць іх скажаш, ці толькі пакрывішся, слухаючы іхнія прамовы, адразу ў крык: «А-а, вандэец! Вораг дэмакратыі!» Вядома, ён, Росцікаў, мяркуючы па ягоным артыкуле, дэмакратыі гэтай самай і сапраўды не сябра палымяны, ён гэта слова — дэмакратыя — больш у двукоссі ўжывае, але ўсё ж яму было даволі ніякавата, няўтульна, калі яго называлі вандэйцам. І раптам — гара з плеч! Аказваецца, Вандэя — гэта гучыць горда. І вандэец таксама горда гучыць. Журналіст даведаўся, нарэшце, што Вандэя — гэта французскі дэпартамент, правінцыя, дзе двесце гадоў назад — у 1793 годзе — успыхнула гераічнае сялянскае паўстанне, жорстка падаўленае рэвалюцыянерамі, гэтымі «так званымі дэмакратамі», гэтымі «агалцелымі перабудоўшчыкамі» тагачаснай Францыі. Журналіст уздыхнуў з палёгкай і грудзі горда выпнуў. І Алеся Адамовіча, чыя «хлёсткая фраза, кінутая дзеля красамоўства, зрабілася ганебным ярлыком для ўсяго народа», як след адчытаў: я, маўляў, усё цяпер пра Вандэю ведаю, і не ад абыкага, а ад самога Аляксандра Салжаніцына, з яго выступлення на мітынгу ў Люксюр-Булонь, дзе нядаўна мемарыял у памяць ахвяр Вандэйскага паўстання адкрывалі. І Салжаніцын у выступленні гэтым ніводнага нядобрага слова пра Вандэю не сказаў. А вось вас, «рэвалюцыянераў-перабудоўшчыкаў», збэсціў. Таму што вы для народа першыя супастаты!

Во як! І цяпер, паспрабуй, паспрачайся з Росцікавым. Бо калі з ім спрачацца, дык давядзецца і з Салжаніцыным шпагу скрыжоўваць. Праўда, Герцэн неяк заўважыў, што «аўтарытэт знішчае незалежнасць розуму», а таму, думаецца, паспешліва пагаджацца з аўтарытэтам не варта, калі, вядома, у цябе ёсць свае незалежныя меркаванні. Гэта я да таго, што можна было б адважыцца паспрачацца і з самім Салжаніцыным, калі б была ў гэтым патрэба. Але ў дадзеным выпадку яе няма. Таму, што ўсё, што ён сказаў у Люксюр-Булонь пра вандэйскіх сялян-паўстанцаў, пра іх неймаверныя пакуты і ахвяры, якія яны панеслі ў адчайнай бойцы з тымі, хто штыком і куляй заганяў іх у «царства свабоды, роўнасці і братэрства», — святая праўда. І яго думкі аб згубнасці рэвалюцыйнага тэрору, аб разбуральных выніках крывавых оргій рэвалюцыі, якія скажаюць духоўнае і маральнае аблічча народа, абуджаючы ў ім самыя цёмныя інстынкты, — глыбока справядлівыя. Але, даруйце, якое дачыненне мае ўсё гэта да той «Вандэі», пра якую пяць год назад казаў Алесь Адамовіч? Ці існуе аналогія паміж той «Вандэяй» і французскай Вандэяй 1793 года? Так, існуе. Але зусім не тая, якую спрабуе правесці журналіст, разлічваючы на недасведчанасць чытача, на тое, што большасць, як і ён сам да нядаўняга часу, нічога толкам пра Вандэю не ведае. Пра тое, у прыватнасці, што ў Вандэйскім паўстанні ўдзельнічалі не адны сяляне, але і тыя, хто, калі пакарыстацца нямоднай сёння тэрміналогіяй, быў эксплуататарам, тытулаваная вандэйская знаць, усе гэтыя валодаўшыя незлічонымі багаццямі, а галоўнае — зямлёй, маркізы, герцагі і віконты. І не проста ўдзельнічалі, але і ўзначалілі паўстанне, выкарыстаўшы крыўду сялян на рэвалюцыю, якая абрушыла бязлітасны тэрор не толькі на знаць, але і на гаротнага, цёмнага, непісьменнага мужыка, з якога тая ж знаць стагоддзямі сем скур

*(Працяг на стар. 15)*

## ДАЖЫЛІСЯ ДА «ЦЭНТРАЛЬНАЙ»...

**«Цэнтральнай газетай», прытым грамадска-палітычнай, называецца новае рэспубліканскае перыядычнае выданне, заснавальнікамі якога сталі Рэспубліканская партыя працы і справядлівасці і Беларускае таварыства інвалідаў па зроку. У пробным нумары «ЦГ», што днямі з'явіўся ў кіёсках, галоўны рэдактар Аляксандр Фядута так вызначае задачы і профіль гэтага выдання: «Мы — «Цэнтральная газета». І мы — газета цэнтрысцкая. Ма пастараемся быць у цэнтры падзей, аналізаваць цэнтральныя праблемы нашага жыцця, утрымлівацца ў цэнтры вашай увагі. Але галоўнае — паспрабуем садзейнічаць утварэнню палітычнага цэнтра, які яшчэ адсутнічае ў нас ў дзяржаве. Будзе цэнтр — будзе свабода ад панавання ідэалагічнай дактрыны, будзе магчымасць выбару, будзе спакой. Будзе грамадзянскі мір і панаванне здаровага сэнсу — страўнікі будуць сытымі. Дай Бог, каб нам усё гэта ўдалося».**

**Як сведчаць матэрыялы пробнага нумара, «ЦГ» сапраўды намагаецца даць магчымасць выказаць на сваіх старонках самыя розныя думкі, меркаванні, погляды. Пра гэта сведчыць нават кола аўтараў: народны дэпутат РБ Д. Булахаў /«Закон гэтаксама неабходны, як і хлеб надзённы»/, намеснік старшыні БНФ Ю. Хадыка /«Дэмакратыя — наша будучыня»/, старшыня РППС, народны дэпутат РБ А. Нятылькін /«Трэба шукаць выхад, а не вінаватых»...**

**А што далей, дык: пажывём — пабачым.**

## ПРАЦАВАЦЬ НА АДРАДЖЭННЕ

**Менавіта так вызначыў далейшыя задачы выдання на 1994 год галоўны рэдактар «Роднага слова» М. Шавыркін, выступаючы ў першым нумары з рэдакцыйным артыкулам. Спрыяць «актыўнаму адраджэнню нашага нацыянальна-краёвага руху, адраджэнню беларускасці — гэтым клопатам прасякнуты і першы нумар часопіса.**

**Жыццё і творчасць Ядвігіна Ш. разглядае А. Дышлевіч /«На пераломе стагоддзяў»/. Штрыхі да творчага партрэта А. Якімовіча напісала М. Шаўлоўская /«Творчасць пісьменніка — гэта спеў сэрца...»/. Агляд сучаснай беларускай літаратуры зрабіў М. Тычына /«Песні Арфея»/, А. Бельскі працягвае аналізаваць маладую драматургію /«Пуцявінамі абнаўлення»/.**

**Прапануюцца выбраныя старонкі з рукапісу новай кнігі У. Содаля пра Ядвігіна Ш. «Летуценнік з Карпілаўкі», артыкул Т. Габрусь «Калі змоўкнуць і песні, і паданні...» /архітэктура беларускага барока/, працяг артыкулаў А. Хатэнкі «Па прыступках лесвіцы вечнай» /з радаводу багоў паганскіх/, А. Ненадаўца «Надзейны вартаўнік і верны сябар» /вобраз сабакі ў міфалогіі і літаратуры/, заканчэнне артыкула Т. Шамякінай «Міфалогія». Я. Саламевіч склаў «Хроніку нацыянальна-вызваленчага паўстання 1794 г. у Польшчы, на Беларусі і ў Літве», В. Мартыненка знаёміць з бардам В. Цярэшчанкай — «Панацэя ад духоўнай хваробы».**

## ЭНЦЫКЛАПЕДЫЯ ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСАЎ

**пачатку дваццатага стагоддзя — так можна сказаць сёння пра газету «Наша Ніва». Менавіта на яе старонках беларус загаварыў аб сваёй нялёгкай долі, аб спрадвечных сваіх марах лепшай будучыні, аб нацыянальным і сацыяльным разняволенні. У «Нашай Ніве» змяшчалася багатая і разнастайная інфармацыя аб самых розных падзеях, вялікая ўвага ўдзялялася пытанням літаратуры, мастацтва.**

**З першага ж свайго нумара, пазначанага 10/23 лістападам 1906 года, быў узяты накірунак на нацыянальнае адраджэнне. Прынамсі, у рэдакцыйным артыкуле гаварылася: «Мы будзем служыць усяму беларускаму скрыўджанаму народу, пастараемся быць люстрам жыцця, каб ад нас, як ад люстра, свет падаў у цёмнасць... Мы будзем браць усё ад усіх і, злажыўшы ў парадак, зноў аддаваць. Ведайце добра, што «Наша Ніва» газета не рэдакцыі, але ўсіх беларусаў і ўсіх тых, хто ім спагадае. Кожны мае права быць выслуханым на старонках нашай газеты і кіраваць ёю, толькі каб было разумна. Мы з свае стараны будзем старацца, каб усе беларусы, што не ведаюць, хто яны ёсць, — зразумелі, што яны беларусы і людзі, каб пазналі свае права і памаглі нам у нашай рабоце».**

**На жаль, сёння немагчыма ў бібліятэцы знайсці поўны камплект газеты: знішчальны час зрабіў сваю справу. А «Наша Ніва» патрэбна многім, хто хоча атрымліваць, як кажуць, з першакрыніц інфармацыю.**

**Улічваючы гэта, выдавецтва «Навука і тэхніка» і вырашыла ажыццявіць факсімільнае выданне «Нашай Нівы». Здзяйсненне задумкі заняло не адзін год. І ў першую чаргу з-за фінансавых цяжкасцей. На шчасце, першы выпуск гэтага выдання /амаль праз два гады пасля падпісання да друку/, нарэшце, прыйшоў да чытачоў.**

**Першая кніга «Нашай Нівы» складаецца з нумароў за 1906—1908 гады.**

# Сяргей ЗАКОННІКАЎ: «ВЕРУЮ Ў БЕЛАРУСЬ!»

ГУТАРКУ ВЯДЗЕ АЛЕСЬ МАРЦІНОВІЧ

***Хто знаёмы з кнігай паэзіі Сяргея Законнікава «Закліннанне» /яна адзначана Дзяржаўнай прэміяй Рэспублікі Беларусь/, памятае, пэўна, эпіграф да зборніка:***

**Дзе ўзяць той мёртвай і жывой вады,
Каб імі пакрапіць маю зямлю?
І мушу,
як замову ад бяды,
Шаптаць адно-адзінае: «Люблю...»**

***«Люблю...» Родную зямлю і матчыну песню... Дарагую і мілую сэрцу Ушаччыну, дзе прайшло маленства, і ўсю маці-Беларусь. І ўвесь добры свет. І ўсіх добрых людзей у ім.***

***Любоў гэтая — аднойчы і назаўсёды.***

***Сёння яна, бадай, больш неабходная, чым калі-небудзь. Бо сёння ў жыцці так шмат няпэўнасці і, разам з тым, самых найлепшых спадзяванняў. На адраджэнне Беларусі, на тое, што яна будзе і надалей суверэннай, роўнай сярод роўных гэткіх сама суверэнных дзяржаў. І на ўсё хочацца адгукнуцца. І ўжо не толькі вершам, а і публіцыстычным словам, артыкулам. Само сабой напрошваецца першае пытанне...***

**— Сяргей Іванавіч, апошнім часам вы паўсталі перад чытачамі як нарысіст. Маю на ўвазе вашы падарожныя нарысы «Вячэра пад райскім дрэвам». Чым можна растлумачыць гэты зварот да новага для вас жанру? Публіцыстыка, так бы мовіць, пацясняе паэзію?**

— Сапраўды, апошнія два гады працаваў над рукапісам, які і для самога мяне стаў нечаканасцю. Ён складаецца з чатырох нарысаў — «Палын і васілёк», «Сум па «Бранкавым коле», «Ліёнскі тыдзень» і «Вячэра пад райскім дрэвам». Адназначна вызначыць жанр напісанага цяжкавата, тут перапляліся і вандроўныя, дзённікавыя запісы, і публіцыстычны роздум, і лірычныя маналогі, і дыялогі з рознымі людзьмі, і, нават, паэтычныя радкі. Ды, зрэшты, не гэта важна. Галоўнае, каб кніга чыталася, выклікала цікавасць. А штуршком для яе напісаная стала наведванне мною такіх краін, як Італія, Францыя, Югаславія, Германія, Швейцарыя. Хачу адразу сказаць, што ўсе мае паездкі за мяжу не былі турысцкімі. Давялося ўдзельнічаць у міжнародных літаратурных сустрэчах і як члену прэзідыума Беларускага камітэта абароны міру наладжваць сувязі з замежнымі міратворчымі арганізацыямі, дапамагаць збору сродкаў для набыцця і пастаўкі ў Беларусь лекаў, вітамінаў, медыцынскага абсталявання, якія востра неабходны ахвярам чарнобыльскай трагедыі, зарабляць самому лекцыямі, выступленнямі ў шматлікіх аўдыторыях грошы на гэтыя мэты.

За мяжою часта жыў не ў атэлях, а ў сем'ях актывістаў міратворчага руху, рэлігійных дзеячаў, сустракаўся ў вялікіх і малых гарадах, пасёлках і нават вёсках з самымі рознымі людзьмі — рабочымі, фермерамі, урачамі, настаўнікамі, прадпрымальнікамі, банкірамі, работнікамі культуры, прадстаўнікамі ўлады, пенсіянерамі, моладдзю, удзельнічаў у надзвычай вострых і цікавых дыскусіях. Хадзіць услед за гідам, які камандуе: «Павярніце галаву ўправа, а цяпер — улева», — адно, а вось заглыбіцца ў жывое жыццё невядомай табе краіны і яе людзей — гэта зусім іншае. Прыглядаўся, аналізаваў і, канечне ж, заўсёды перакідаў кладку памяці да сваёй зямлі, шматпакутнай гісторыі беларускага народа, нашага сённяшняга, неймаверна цяжкага быцця, параўноўваў, рабіў пэўныя вывады.

Кніга, якая атрымала назву сімвалічную «Вячэра пад райскім дрэвам», — гэта не інфармацыя, выкладзеная турыстам, а само чалавечае жыццё: дынамічнае, неспакойнае, складанае. У ёй знайшлося месца і нашым трывогам і спадзяванням, і старому рыбаку з Палерма, і камісару паліцыі з Рыма, і ламе з Манголіі, і французскаму паэту, і нямецкаму пастару, і гаспадару атэля з невялікай швейцарскай вёскі Зас-Грунд, і, нават, запаведным птушыным астравам на возеры Паліч у аўтаномным краі Ваяводзіна /Сербія/.

Хочацца спадзявацца, што кніга будзе карыснай не толькі тым, што расказвае пра сапраўдныя і вечныя каштоўнасці народнага жыцця — культуру, літаратуру і мастацтва, традыцыі, быт людзей, але і сваёй канкрэтнай, практычнай скіраванасцю, спробаю, улічваючы выпрабаваны часам, даўні вопыт еўрапейскіх краін і іх народаў, падказаць вырашэнне многіх нашых сённяшніх праблем. Скажам, тых жа надзённых пытанняў сацыяльнай абароненасці людзей, арганізацыі эфектыўнага гаспадарання на зямлі, рэфармавання агульнаадукацыйнай і вышэйшай школы, падтрымкі культуры, выхавання нацыянальнай свядомасці. Шкада толькі, што нашы кіраўнікі, людзі, якія зараз адказваюць за будучыню Беларусі, амаль не чытаюць кніг на роднай мове.

А што да пацяснення публіцыстыкаю паэзіі, то скажу так: і адна, і другая жывуць, нясуць сваю службу. Мне, як чытачу, цікавы твор любога жанру, абы гэта было напісана таленавіта. Часам адзін верш Пімена Панчанкі можа зрабіць тое, што не пад сілу нават дзесятку публіцыстычных артыкулаў сярэдняй рукі. Памятаю, як нумар «Полымя» з балючымі, напісанымі, не пабаюся гэтых слоў, крывёю сэрца вершамі паэта хадзіў па руках у цэхах Мінскага трактарнага завода. І пасля гэтага мы набылі сярод рабочых падпісчыкаў часопіса.

**— Калі ўжо зайшла гаворка і пра паэзію, дык якое ваша стаўленне да самога паняцця публіцыстычнасці ў ёй? Канечне, я маю на ўвазе зусім не тую дэкларацыйную вершаваную прадукцыю, што пісалася асобнымі творцамі да розных святаў, а таксама да партыйных з'ездаў, пленумаў. Гаворка ідзе пра вершы, у якіх у той ці іншай ступені прысутнічае дух эпохі.**

— У таталітарным грамадстве пад публіцыстычнасцю паэзіі заўсёды падразумяваецца барабанны пошчак. Так і было. «Дацкая» /ад слова — дата/, дэкларацыйная рыфмаваная прадукцыя шырока друкавалася не толькі ў масавых газетах, але і ў букварах, чытанках, хрэстаматыях. Дзеці ў школе вучыліся не на паэзіі пра вечнае, святое, а на запалітызаванай траскатні.

Дарэчы, я нядаўна пагартаў школьную праграму па беларускай мове і літаратуры і пераканаўся, што вялікага зруху да таго, каб увесці ў яе самыя лепшыя класічныя і сучасныя творы паэзіі, прозы, драматургіі, так і не адбылося. Але гэтая надзвычай важная тэма заслугоўвае асобнай гаворкі.

У маім разуменні публіцыстычнасць паэзіі — гэта здольнасць аўтара сумленным, шчырым, праўдзівым радком дайсці да людзей, паўплываць на чытача, перадаць яму свае радасць, трывогу, боль, душэўную энергію ,зрабіць яго сваім аднадумцам, гэта ўменне гаварыць проста і даходліва, каб быць пачутым і зразуметым. А наогул, вызначэнне «публіцыстычнасць» надта шырокае і ўмоўнае. Публіцыстычнаю можа быць і «ціхая лірыка». І яна часта перадае, як вы кажаце, «дух эпохі».

**— У самым шырокім разуменні гэтага слова публіцыстычная паэзія, скажам, Пімена Панчанкі, але ж не адмаўляецца ад публіцыстыкі і Максім Танк. Разам з тым, з гэтым пагодзіцца любы аматар паэзіі, творцы яны зусім розныя і непадобныя адзін на аднаго. Значыць, публіцыстычнасць, умоўна сказаць, гэта і нейкі душэўны стан, а ён у кожнага свой...**

— Вы назвалі дарагія мне імёны двух выдатных паэтаў, творцаў еўрапейскага маштабу. Пра высокія дасягненні ў паэзіі Пімена Панчанкі і Максіма Танка ўжо многа сказана ў крытыцы і літаратуразнаўстве, ды яшчэ вялікая гаворка наперадзе. Я не крытык, і не мне нешта ў іх творчасці, як гэта заведзена акадэмічнай навукаю, раскладаць па паліцах, параўноўваць. Скажу толькі адно — пры ўсёй непадобнасці творчай манеры, стылю ў кожнага з іх публіцыстычнасць арганічна зніто ўваецца з лірычнасцю, з зямной, чалавечай, жыццёвай вобразнасцю. Яны — паэты ад зямлі і ад Бога. І мне радасна, як чытачу, чакаць іхнія новыя паэтычныя радкі.

Я думаю, што ўсе мы — людзі беларускай зямлі — не сказалі яшчэ таго слова ўдзячнасці такім волатам айчыннае літаратуры, як Пімен Панчанка, Максім Танк, Васіль Быкаў, Янка Брыль, якога яны заслугоўваюць.

У сувязі з гэтым хачу колькі слоў сказаць увогуле пра ролю нашай паэзіі, літаратуры ў жыцці нацыі.

У спецыфічных умовах Беларусі, з улікам сённяшняй моўнай, культурнай, духоўнай сітуацыі паэзія становіцца важнай сілаю. На ёй ляжыць адказнасць за захаванне мовы. Канешне, паэзія — не адзіны дзейсны сродак у гэтым, але без яе нельга ўявіць сапраўднае адраджэнне і нармальнае развіццё народа.

Так, вершы і паэмы сёння чытаюць мала. Знайсці прычыны гэтаму проста. Можна нагадаць, у якіх жабрачых умовах жывуць людзі, калі ім даводзіцца лічыць «вавёрачкі», каб набыць бохан хлеба, можна гаварыць пра тое, што паэзія — рэч спецыфічная, разлічаная на падрыхтаванага чалавека, што яе аматары заўсёды складалі невялікі працэнт ад усёй чытацкай аўдыторыі, што, скажам, кнігі самога А. С. Пушкіна ў яго час выходзілі накладам толькі 300—500 асобнікаў. Дарэчы, зборнікі паэзіі на Захадзе і сёння маюць тыраж нязначны, меншы, чымся ў нас на Беларусі. Але такое параўнанне яшчэ ні пра што не гаворыць.

У жыцці кожнага народа былі такія перыяды, калі паэзія, літаратура, гуманітарная адукацыя выходзілі на першы план. Для Беларусі паэзія, увогуле літаратура на працягу XIX і XX стагоддзяў — гэта нешта больш значнае, чым проста адна з галін культурнага жыцця. Давайце, нарэшце, скажам хоць і горкую для ўсяго народа, але праўду — толькі дзякуючы пісьменнікам наша мова, культура, а калі на тое пайшло, і сама нацыя пакуль што не згінулі. Я не хачу пакрыўдзіць нікога: у першую чаргу нашых вясковых бабуль, матуль, у вуснах якіх жыве роднае слова, энтузіястаў-настаўнікаў, выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры, многіх артыстаў, мастакоў, журналістаў, прадстаўнікоў навуковай і тэхнічнай інтэлігенцыі. Сярод іх ёсць верныя захавальнікі і папулярызатары нашай мовы.

Але асноўную місію па зберажэнні, стварэнні і развіцці моўнай, а дакладней нацыянальнай аўры ў нашым грамадстве заўсёды выконвала літаратура, пісьменнікі. Прытым, як мне ўжо даводзілася гаварыць, робяць яны гэта не абцяжарваючы само грамадства нейкімі значнымі расходамі. Ручка, стосік паперы і ў канцы працы жабрачы ганарар — гэта ўсё, чым валодае і што ў выніку мае пісьменнік. Праўда, каб напісаць нешта вартае, трэба яшчэ спальваць свой розум, сэрца і душу. Ды гэта ў нас ніколі не бралася пад увагу, не ацэньвалася — нікчэмны тавар.

А выдатны амерыканскі паэт Эзра Паунд сказаў так: «Добрыя пісьменнікі — гэта людзі, якія захоўваюць жывую сілу мовы. ...Калі пачынаецца заняпад нацыянальнай літаратуры, нацыя марнее і памірае». З гэтых справядлівых слоў вынікае, што клопат пра літаратуру павінен быць сапраўды ўсенародным, дзяржаўным.

**— Дарэчы, а як вершы пішаце вы? Доўга абдумваеце, перш чым узяцца за пяро, ці па нейкім зразумелым аднаму вам /а можа і не вытлумачальным/ імпульсе сядаеце за стол і...**

— Гэтае пытанне часта гучыць на літаратурных сустрэчах. На адной з іх, здаецца ў Віцебску, мяне доўга даймала мілае, залатакосае дзяўчо: «Не, вы ўсё ж растлумачце, як адбываецца, калі з нічога і раптам прарастаюць вершы?» Мне спадабаліся гэтыя яе «з нічога» і «прарастаюць». Так, сапраўды паэтычныя радкі прарастаюць нечакана і неабавязкова за пісьмовым сталом. Яны могуць нарадзіцца і ў вагоне цягніка, і ў тлумнай магазіннай чарзе, і ў час грыбнога палявання, і, нават, за сталом прэзідыума на нейкай сумнай імпрэзе. Звычайна да мяне прыходзяць адна-дзве страфы або адзін радок. Такіх занатовак назапашана шмат. А потым, калі ёсць час і настрой, саджуся за стол і страфа ці нават адзін толькі радок узнаўляюць тое адчуванне, той стан душы, які быў у момант іх завязі. Бывае, што за вечар з'явіцца і два-тры вершы, а іншы раз — зусім пуста. Не пайшло, а сілком вершы не пішуцца. Зрэшты, усё гэта непрадказальнае і незразумелае...

**— А вось сам стан грамадства, падзеі, якія адбываюцца, уплываюць на ваш паэтычны настрой, падштурхоўваюць напісанне пэўных твораў?**

*(Працяг на стар. 12)*

Думка чытача

Перад тым, як адказваць на гэтае пытанне, трэба вызначыцца, што менавіта азначае само паняцце «Расея». Калі звярнуцца да гісторыі стасункаў Расеі са сваімі суседзямі, то можна заўважыць, што пад «Расеяй» гісторыкі разумеюць паняцце дзяржаўнай знешняй палітыкі, якую праводзілі кіруючыя колы гэтай усходняй імперыі. А на ўсім працягу яе існавання кіраўнікі Расеі праводзілі імперскую захопніцкую палітыку, незалежна ад змены форм праўлення. Пры гэтым не трэба абагульняць захопніцкаімперскую палітыку расейскіх улад са шматнацыянальным расейскім народам. Але, на жаль, пэўны вынік такога стаўлення Расеі да сваіх суседзяў лянакуль парасткі беларускага адраджэння — гэта толькі першыя крокі абуджэння народа. Згодна гэтаму, становішча зразумелым такое дэфармавана-абыякавае разуменне сённяшняга палітычнага стану на Беларусі сучасным беларускім абывацелям, які, у большасці, успрымае даволі цэнтрысцкую палітычную сілу — Беларускі народны фронт, сілу хрысціянска-дэмакратычнага кірунку — як нацыянал-радыкальную. У той жа час ён, абывацель, не разумее, што «адзіны цэнтрыст на Беларусі» — дэмакрат Шушкевіч — быў толькі засланкай для правячага камуністычнага кіраўніцтва. Сапраўдных нацыянал-радыкалаў у беларускім грамадстве амаль няма. І гэта дрэнна: «спячы» нацыянальны менталітэт не дае большасці народа зразумець нават уласныя выгады жыцця ў сваёй незалежнай дзяржаве.

ныя шляхі, газа- і нафтаправоды, іншыя камунікацыі, а таксама, як і раней, пярэдні край расейскай супрацьпаветранай абароны, — усё, што складае «беларускі калідор». За гэта ўсё трэба плаціць велізарныя грошы ў валюце ці рэсурсах, але Расея карыстаецца гэтым **бясплатна**. Зараз, разумеючы, што архаічны пракамуністычны рэжым на Беларусі нявечны пад бокам добраўладкаванай Еўропы, расейскае кіраўніцтва робіць захады, каб захапіць гэты транзіт з дапамогай беларускіх бальшавікоў, якім потым знойдзецца месца на жыхарства ў элітарным Падмаскоўі з поўным спецыяльным «дзяржутрыманнем» і праца ў разнастайных «фондах». І зараз можа так здарыцца, што калі нарэшце беларускі народ прачнецца ад спячкі, то самыя лепшыя кавалкі беларускага пірага будуць уласнасцю Расейскай дзяржавы.

# ЯКАЯ БЕЛАРУСЬ ПАТРЭБНА РАСЕІ?

## «БЕЛАРУСКІ КАЛІДОР», ХАРЧЫ І ГОЛАС У ААН

жыць і ў самой ментальнасці расейскага /рускага/ чалавека. Як гэта ні прыкра, але выдае на тое, што сучасны расейскі менталітэт наскрозь прасякнуты імперскасцю і асабліва па дачыненні да слабейшых народаў. Гэта найбольш праяўляецца сярод кіруючых колаў, але — не толькі.

У аўтара гэтых радкоў даволі шмат нядрэнных сяброў сярод расейскай /маскоўскай/ інтэлігенцыі, але, на жаль, амаль усе яны маюць імперскую хваробу. Неадночы даводзілася чуць на «маскоўскіх кухнях» дыспуты на тэмы: «Если бы Екатерина не продала Аляску, то Канада была бы наша и не было бы проблем с хлебом, и Америка с нами больше считалась», або: «Если бы Жуков в 1945 году скинул англоамериканцев в Ла-Манш, то Европа была бы нашей провинцией» і г. д... А чаго вартыя лозунгі: «Масква — трэці Рым», ці: «русская церковь — истинно православная...»; я ўжо не кажу пра сучасныя пасажы «Памяці» ды Жырыноўскага?..

Нядаўна ў калядным выпуску «Нашай Нівы» я прачытаў, што беларусы — гэта нацыя з жаночым характарам. І гэта ў пэўнай ступені не супярэчыць вядомым штампам накшталт «беларусы — талерантная нацыя», «Беларусь — гэта краіна, у якой нічога не адбываецца», альбо: «белорусы умеют работать, а не митинговать», «в Белоруссии дисциплинированный народ и все ходят только на «зеленый свет»... Маркую, што ў гэтым ёсць нешта не жаночае, а, хутчэй за ўсё, — рабскае. Але, на мой погляд, беларусы не з'яўляюцца нацыяй рабоў, гэта толькі іх **сучасны** стан, да якога іх мэтанакіравана даводзілі і працягваюць даводзіць.

*Лёс беларускай нацыі* прайшоў па шляху: балтаславяне /ці славянабалты/ — ліцвіны — беларусы. У свой час спалучэнне балтаў са славянамі дало росквіт маладой нацыі ліцвінаў і Вялікага княства ў XIII—XVI стст. Агульнавядома, што ў войнах гінуць лепшыя. Менавіта таму шматлікія войны з Расеяй, крыжаносцамі і іншымі краінамі на тэрыторыі Беларусі вынішчылі і падарвалі генетычную аснову нацыі. Асабліва моцна падарвалі генетычную аснову беларускай нацыі сусветныя войны і сталінскі генацыд. Краіны-суседзі /Польшча і Расея/ рвалі /і зараз працягваюць гэта рабіць/ нашу нацыю на палякаў і рускіх, выкарыстоўваючы рэлігійныя фактары. Пачынаючы з XVII стагоддзя ліцвінская /ці то беларуская/ партыя ў грамадстве пачынае слабець, а польская і расейская па чарзе ўзмацняюцца. Усё гэта зрабіла моцны гістарычны ўплыў на сучасны беларускі менталітэт. Менавіта таму сучасны беларускі менталітэт — гэта менталітэт «сляпой» нацыі, а слабыя

Дык якая Беларусь патрэбна сучаснай Расеі? З пачатку «перабудовы» да жніўня 1991 года ў агульнасаюзным і расейскім друку Беларусь узгадвалася амаль толькі як геаграфічнае паняцце, завязанае на Чарнобылі. Пасля першага путчу жніўня 1991 года Беларусь стала прыгадвацца ў расейскім друку як месца, дзе «развалілі Саюз», у сувязі з белавежскімі пагадненнямі. Але з пачатку 1992 года інтанацыі змяніліся. У расейскім грамадстве з'явілася пачуццё, што «вялікая Расея» страчвае свае тэрыторыі. Узровень жыцця на Беларусі ў 1992 годзе і ў першай палове 1993 года быў значна вышэйшы, чым у Расеі, якая праходзіла цяжкі шлях рэформ. На бытавым узроўні сталі выказвацца меркаванні, што яны /беларусы/ аддзяліліся і таму лепш жывуць. Пры гэтым пераважная частка расейскага грамадства не жадае больш ніякага СССР /паводле тых жа абывацельскіх меркаванняў, «русским его навязали евреи»/, але ўпарта жадае аднаўлення вялікай Расеі.




*Малюнак Л.РАЗЛАДАВА*

Сучаснае расейскае кіраўніцтва стала праводзіць усё больш праімперскую палітыку. Пры гэтым з рускага, а пры магчымасці і рускамоўнага насельніцтва робіць пятую калону /тут можна прыгадаць агульнавядомыя заявы Козырава/, хоць у самой Расеі нікому няма справы да «простага рускага чалавека» — колькі ён зарабляе і што можна купіць на заробак, на што жыве беспрацоўны...

Да восені 1993 года для расейскіх сродкаў масавай інфармацыі Беларусь была забытым кутом, але цяпер расейскія імперскія памкненні нарэшце дацягнуліся і да гэтай «самай спакойнай краіны СНД» — інфармацыя палілася штодзённа.

Што больш за ўсё цікавіць расейскія ўлады, дык гэта беларускі транзіт. Акно ў Еўропу для Расеі праходзіць праз Беларусь. Гэта — чыгуначныя і шасей-

/Тут можна прыгадаць і пагадненне аб уключэнні беларускай газавай кампаніі ў склад расейскага «Газпрома»/. Тут Беларусь можа напаткаць лёс Панамы. Бо калі, з часам, на Беларусі пачнуцца адпаведныя змены і беларусы пачнуць самі гаспадарыць у сваім доме, Расея можа прыслаць войскі для абароны сваёй маёмасці ў «беларускім калідоры».

А зараз Расейскай дзяржаве патрэбна /як кажуць у Расеі/ «сохранение в Белоруссии старого элитарно-промышленного режима», і яна як магла падтрымлівае пракамуністычны ўрад Кебіча, садзейнічаючыператварэнню Беларусі ў «Паўночную Карэю». Тут можна цалкам пагадзіцца з вядомым амерыканскім беларусам спадаром Карніловічам, які незадоўга да смерці пісаў, што ў свеце засталіся толькі тры камуністычныя краіны: Куба, Паўночная Карэя і Беларусь. Што ж датычыць расейскіх улад, дык іх нельга асуджаць: яны бароняць свае нацыянальна-імперскія інтарэсы...

Дык якая ж Беларусь патрэбна Расеі? На гэтае пытанне можна адказаць дакладна: Расеі патрэбна краіна-калонія, цалкам залежная ад яе і эканамічна, і палітычна, адсталая ў культурнаэканамічных і палітычных адносінах, урад якой будзе глядзець у рот расейскаму і цалкам ім кантралявацца. Расеі патрэбны спакойны і стабільны «беларускі калідор», танныя беларускія харчы і тавары ў абмен на папяровыя грошы, а таксама голас Беларусі ў ААН /які заўсёды «галасаваў» бы так, як патрэбна Расеі, напрыклад, па югаслаўскім пытанні/.

Ці ёсць выйсце з гэтага становішча? Безумоўна, ёсць. Разумны выхад заключаецца ў змене ўлады. Не так важна, якая палітычная сіла будзе ў такім выпадку кіраваць беларускай дзяржавай і якой нацыянальнасці ці веравызнання будзе той ці іншы міністр, — важна, каб гэта быў патрыятычны ўрад, які арыентаваўся б не на Расею, не па Польшчу, не на Амерыку ці Нямеччыну, а — толькі на свае нацыянальныя інтарэсы; быў вельмі прагматычным у палітыцы і эканоміцы; каб сябраваў з тымі, з кім выгадна ў гэты момант /тут можна прыгадаць вядомае міжнароднае правіла, што сябраваць трэба праз суседа, а для Беларусі зараз на словах выгадна сябраваць з усімі, а ў канфліктах быць нейтральнай/. Што датычыць стасункаў з Расеяй, то тут трэба сяброўства на роўных, не аддаючы нічога з нацыянальных інтарэсаў. А за «беларускі калідор» з Расеі трэба браць грошы, напрыклад, за кожны кіламетр шасейных шляхоў, — гэта дасць Беларусі добрыя грошы на закупку і нафты, і газу, і добрае жыццё для насельніцтва...

Што датычыць эканомікі, то Беларусі трэба ісці па шляху эканамічных рэформ, прычым вельмі хуткімі тэмпамі, а інтэграцыю праводзіць не ў нестабільную Расею, што раздзіраецца нацыянальнымі і сацыяльнымі канфліктамі, а ў багатую і стабільную Еўропу. Трэба больш арыентавацца на забеспячэнне ўласнаю сыравінай, на свае сілы, а не на тое, што хтосьці дасць, аб чым увесь час марыць большая частка скамунізаваных беларускіх дырэктараў. Беларусь — краіна, багатая карыснымі выкапнямі: бурым вугалем, нафтай /якая з самага пачатку няправільна здабываецца, з-за чаго большая яе частка застаецца ў радовішчах/, меддзю, рудамі металаў, бурштынам і інш. Амаль усё гэта не распрацоўваецца. Безумоўна, тут патрэбны інвестыцыі і таму неабходна прыцягваць заходніх інвестараў на выгадных для сябе і іх умовах. Трэба перанакіраваць гаспадарку на ўласныя патрэбы і карысць. Навошта Беларусь, напрыклад, «БелАЗ»? З «рублёвай зонай» ці без яе замоваў на «БелАЗы» не павялічыцца. Тут неабходна перапрафіляванне «БелАЗа» з дапамогай інвестараў, з перадачай ім часткі маёмасці, на выпуск канкурэнтаздольных аўтамабіляў. Толькі такім чынам можа быць дасягнуты дабрабыт дзяржавы і народа.

Што датычыць пагаднення аб «*рублёвай зоне новага тыпу*», то эканамічна яно нежыццяздольнае, таму што зробіць узровень заробкаў на Беларусі ніжэйшым, узровень беспрацоўя вышэйшым за расейскія паказчыкі, а гэта ў сваю чаргу выкліча народнае абурэнне. Цікава, што ў апошні час расейскія сродкі масавай інфармацыі насычаны пасажамі тыпу: «В Белоруссии вырос ядовитый гриб», «Шестерки побили туза», «Во что обойдется россиянам поддержка прогнившего режима в Белоруссии», «Кебич говорит, что белорусские товары не нужны в Европе, а зачем они россиянам, чем они хуже?» і г. д. Расея жадае мець Беларусь, але не жадае плаціць. Беларусі патрэбна свая грашова-крэдытная сістэма, свая цвёрдая валюта — дзеля правядзення эканамічнай палітыкі на сваю карысць.

У заключэнне асмелюся дапусціць, што час усё-такі працуе на карысць Беларусі. Рана ці позна адыдуць у нябыт чырвона-і чорна-карычневыя, беларуская камуністычна-марыянетачны ўрад і парламент. Гэта надае моцы спадзяванням на лепшую долю беларускага народа.

**Генадзь ЛЕХ,**
**кандыдат тэхнічных навук, намеснік старшыні Маскоўскага таварыства беларускай культуры імя Францішка Скарыны**

Я. Коласа «На ростанях», раман К. Чорнага «Сястра», драма М. Гарэцкага «Антон» і інш.

Можна зразумець і ўстойлівую цікавасць нашай літаратурнай класікі да людзей з мудра-філасофскай жылкай у характары. З імі звязваліся надзеі на сапраўдную дэмакратычную і гуманістычную перабудову жыцця. Бо толькі мудры позірк, хай сабе ён выяўляе сябе і проста ў формах здаровага сэнсу, з'яўляецца, як паказвае шматгадовы людскі вопыт, найважнейшым стымулам на шляху праўдашукальніцтва, справядлівасці і вялікай засцерагальнай сілай ад таго, каб не трапіць у цянёты розных ілюзій, утопій і міфалагем. А на такія догмы-міфы быў багаты і ранейшы час, і цяперашні не бедны.

Дазволю сабе спыніцца толькі на некаторых момантах нашай класічнай традыцыі, у прыватнасці коласаўскай, якая, выканаўшы сваю вялікую літаратурна-грамадскую місію ў мінулым, натуральна і арганічна ўвайшла ў літаратурна-грамадскі кантэкст нашай сучаснасці.

Рана ці позна, як паказвае, напрыклад, Я. Колас у рамане-трылогіі «На ростанях», людзі імкнуцца вырвацца з-пад уплыву утапічнага прэсінгу. І чым больш прымусовай сілы бывае ў навязванні ім міфалагем, тым звычайна больш выбухова выспявае ў іх душах гнеў, а часта і стыхійная бунтоўная злосць супраць тых, хто і сам, грунтоўна не ўсвядоміўшы цяжкасцей будучага шляху саманадзейна прысвойваў сабе лідэрскія функцыі.

Відаць, зусім не пашкодзіла б, каб у наш разгойданы і раскалыханы, палітызаваны час розных выбараў, перавыбараў, мітынгаў, рэферэндумаў і г. д., калі высоўваецца безліч усялякіх пражэктаў і даецца безліч усялякіх абяцанняў, на людных месцах былі вывешаны плакаты, на якіх кожны мог бы прачытаць словы героя коласаўскай трылогіі Лабановіча: «Навязваць жа людзям сваю волю, вымагаць ад іх, каб яны рабілі іменна так, а не інакш, мы не маем права, бо хто можа паручыцца за тое, што мы не памыляемся? Гэтым і тлумачыцца той факт, што розныя правадыры, якія захоплівалі жарам свайго пераканання людскі натоўп і вялі яго за сабою, — толькі да тае граніцы, ад якой пачыналіся перашкоды. Народ не разумеў гэтых перашкод, адольваць іх у яго не было ахвоты. На гэтым пункце вынікалі непаразуменні. Правадыр з гарчэчаю ў сэрцы казаў: «О, сляпы, нікчэмны натоўп, статак жывёлін!» А натоўп крычаў: «Ты — ашуканец! Пабіць цябе каменнямі».

Я. Колас ніколі не цешыў сябе надзеяй, што вось-вось наступіць такі час і дзень, калі на задні, другарадны план адыдзе эгаістычны і кан'юнктурны палітычны інтарэс пэўных асоб і пэўных колаў грамадства і людзям перастануць навязваць адпаведныя гэтым інтарэсам уяўленні, у тым ліку і лжывыя. А таму ў першую чаргу чалавек сам павінен выпрацаваць маральна-аналітычную сістэму, здольную засцерагчы яго ад паспешнасці станавіцца паслухмяным і механічным выканаўцам чужой волі. Калі, напрыклад, некаторым маладым паэтам у нялросты 20-я і вельмі складаныя, драматычныя і трагічныя 30-я гады здавалася, што няма чаго на пераможным маршы ў светлую камуністычную будучыню задумвацца, спыніцца «на раздарожжы» і «вачыма сумнымі глядзець у далячынь» /П. Броўка/, дык Коласу такі ружова аптымістычны позірк на жыццё ўяўляўся вельмі павярхоўным і несур'ёзным.

У пакутлівых роздумах, сумненнях і перажываннях шукае глыбіні жыццёвага сэнсу, «корань рэчаў» цэнтральны герой трылогіі «На ростанях» настаўнік Лабановіч, самім працэсам гэтых складаных і пакутлівых пошукаў пераконваючы чытача ў тым, што разумны і адукаваны чалавек, калі ён нават па прафесіі настаўнік, у душы сваёй усё жыццё застаецца вучнем. А тыя, каму і сапраўды не хапае сацыяльных і гістарычных ведаў /што паказана ў коласаўскай трылогіі, у рамане Ц. Гартнага «Сокі цаліны», аповесці «Дзве душы» М. Гарэцкага/, спяшаюцца прапанаваць сваю кіруючую настаўніцкую ролю. /У гэтым выяўляецца, відаць, адзін з вялікіх і загадкавых парадоксаў жыцця/. У пэўным сэнсе уважлівым, цікаўным вучнем з'яўляецца і герой аповесці Я. Коласа «Адшчапенец» селянін Пракоп Дубяга, бо іменна гэтая цікавасць вучня, цвярозы практычны погляд на жыццё прымушаюць яго сур'ёзна ўсумніцца ў тым, што крамлёўская палітыка пра безадкладнае правядзенне хуткай і суцэльнай калектывізацыі аднаасобніцкай вёскі нясе селяніну толькі шчасце ды радасць. А вось алегарычны промень-неслух з паэмы Я. Коласа «Сымон-музыка» дык і наогул дазваляе сабе не выканаць загад самога сонца, калі адчуў, што не ўсё ў гэтым загадзе арганічна стыкуецца з высокімі прынцыпамі гуманізму. А загад сонца быў сур'ёзны і важны: дасягнуць зямлі і «знішчыць цьмы там панаванне». Аднак і хмарка, якая сустрэлася на шляху промня, таксама мела патрэбу ў дапамозе і была няшчаснай: «Яна ад холаду дрыжала і нікла ў жудаснай муці». Промень-неслух аблашчыў яе, суцешыў і застаўся з ёю дзяліць яе нялёгкае падарожжа, «за што і быў пакліканы «на суд».

Не будзем тут прама і непасрэдна суадносіць мастацкае слова з палітычнымі дактрынамі. Яно больш настройваецца на падтэкставыя і апасродкаваныя сувязі.

Аднак у гэтым кантэксце варта было б зрабіць наступную заўвагу. Класікі нашай літаратуры былі глыбока заклапочаны лёсам Бацькаўшчыны, агульным лёсам народа і імкнуліся «з цэлым народам гутарку весці» /Я. Купала/. Аднак, думаючы шырокімі філасофска-абагульненымі мастацкімі катэгорыямі, выяўляючы глыбокі і шчыры грамадзянскі клопат пра лёс Бацькаўшчыны і ўсяго працоўнага беларускага народа, яны асцерагаліся таго, каб раптам не забыцца ў такім імкненні да вялікай і маштабнай мэты пра кожнага асобнага чалавека, пра яго індывідуальнае права на самастойную думку, самастойны погляд, самастойнае дзеянне.

Яны былі цвёрдыя і непахісныя ў сваёй перакананасці, што вялікая і дзейсная засцерагальная сіла ад таго, каб не трапіць пад уплыў розных ілюзій, міфаў і не стаць бяздумным і паслухмяным выканаўцам чужой волі, павінна знаходзіцца не толькі дзесьці збоку, звонку, не толькі ў абарончых у дачыненні да чалавека намаганнях дэмакратычнага і гуманістычнага грамадства. Гэта засцерагальная сіла, на іх думку, найперш павінна быць увасоблена ў самім чалавеку, якому, дарэчы, і жыццё штодзённа нагадвае пра неабходнасць няспынна фарміраваць, удасканальваць і развіваць сваю духоўнасць.

Даводзіцца, аднак, канстатаваць сумны факт: мудры голас гэтай класічнай літаратурнай традыцыі да многіх з нас доўгі час не даходзіў ці адгукаўся ў нашых душах і нашай свядомасці далёкім і глухім рэхам. Ды і сёння яшчэ належным чынам да гэтага голасу мы не прыслухаліся і не разгадалі ўсе яго таямніцы і маральна-сэнсавыя нюансы. А калі ж нехта шчыра і адкрыта пачынае гаварыць, што на многіх крутых паваротах гісторыі, дзе трэба было б спыніцца, усумніцца, а можа, нават і рашуча запратэставаць, мы часта былі бяздумнымі і паслухмянымі выканаўцамі, некаторыя з нашых сучаснікаў пачынаюць сур'ёзна крыўдаваць, настройвацца на помслівы лад і не супраць наладзіць такому чалавеку самую сапраўдную абструкцыю.

Ці не ў такой сітуацыі апынулася, напрыклад, аўтар дакументальных кніг пра афганскую вайну «Цынкавыя хлопчыкі» і «У вайны — не жаночае аблічча» пісьменніца С. Алексіевіч? Многія бацькі, страціўшы на гэтай вайне самае дарагое — дзяцей, па-новаму адчулі і зразумелі, што «афганская вайна — пік нашай трагедыі і што трагедыю гэту шмат у чым абумовіла і паскорыла маўклівая згода людзей — выканаўцаў. Для некаторых жа, наадварот, кнігі і артыкулы пісьменніцы здаюцца залішне выкрывальнымі і нібыта пазбаўляюць моладзь «нашай гераічнай гісторыі». І падобных ацэнак, як відаць, нямала. Бо не вырваліся б тады, напэўна, з душы пісьменніцы такія горкія словы: «Пра што мы бясконца разважалі? Усё пра тое, хто мы, куды нам ісці? І вось тут высвятляецца, што ні да чога, нават да чалавечага жыцця мы не адносімся так беражліва, як да міфаў пра саміх сябе. У нас у падкорку закладзена: мы самыя-самыя, самыя лепшыя, самыя справядлівыя, самыя сумленныя. Чалавека, які асмеліўся хоць бы ў чымсьці ўсумніцца, тут жа абвінавачваюць у клятвапарушэнні. Самы цяжкі ў нас грэх!»

На баку пісьменніцы, аднак, вялікая праўда тых, хто вынішаў з гэтага пекла вайны і сур'ёзна задумаўся. Адзін з іх, радавы апаратар-наводчык, так прама і гаворыць: «Толькі цяпер задумаўся, калі рассыпаўся стэрэатып». Задумаўся і зразумеў, што мы на гэтай зямлі далёка не самыя лепшыя і не самыя правільныя.

Сапраўды, некаторыя ранейшыя міфы і стэрэатыпы яшчэ моцна трымаюць многіх з нас у сваім палоне. Найбольш надзейна разбурыць і рассыпаць іх, як гэта пацвярджае шматвяковы вопыт гісторыі, здольна не сілавое ўздзеянне на іх розных указаў, пастаноў і нават не прыняцце крутых і жорсткіх мер, а універсальна шырокі наступ на іх філасофска-аналітычнай і гуманістычнай думкі. І тут ёсць чаму павучыцца ў нашай класічнай літаратурнай традыцыі, якая заўсёды прызнавала шматварыянтнасць спосабаў, шляхоў і падыходаў у пазнанні ісціны, але рашуча адмаўляла і адхіляла адно: падфарбоўку і падсалоджванне горкіх з'яў жыцця, абыход і замоўчванне цяжкага і трагічнага ў нашай гісторыі.

Віншуем!

# Аляксею СЛЕСАРЭНКУ — 75

Вядомасць да Аляксея Слесарэнкі прыйшла, можна сказаць, у маленстве, калі яго, вучня Брагінскай сярэдняй школы, кінафабрыка Белдзяржкіно запрасіла здымацца ў ролі Мірона ў фільме «Палескія рабінзоны» па аднайменнай аповесці Я. Маўра. Стужка выйшла на экраны ў 1934 годзе, а юнака-выканаўцу накіравалі ў Маскву, каб авалодваў прафесійнымі навыкамі ў кінаакцёрскай студыі. Там ён здымаўся ў фільмах «Бежын луг» /рэжысёр С. Эйзенштэйн/, «Вясёлыя хлопцы» /рэжысёр Р. Аляксандраў/, «Аэраград» /рэжысёр А. Даўжэнка/.

У час вайны Аляксей Аляксеевіч камандаваў стралковым узводам, ад Вялікіх Лук прайшоў шлях да Берліна. У арміі служыў да 1953 года, а пасля выступаў як чытальнік Беларускай дзяржаўнай філармоніі. З 1962 па 1974 год працаваў навуковым супрацоўнікам Літаратурнага музея Якуба Коласа.

У друку пачаў выступаць яшчэ ў 1939 годзе, але па-сапраўднаму творчай працай заняўся ў пасляваенны час. Выдаў кнігі «Дарогі і песні» /1965/, «Дарагія аблічы» /1967/, «Жыццё ў мастацтве» /1977/... У 1974 годзе ў Кіеве выйшла на ўкраінскай мове кніга А. Слесарэнкі «Аляксандр Даўжэнка. Шлях да слова».

У друку часта з'яўляюцца яго нарысы, успаміны, са старонак якіх паўстаюць незабыўныя вобліκі дзеячаў літаратуры і мастацтва, з якімі аўтару пашанцавала сустрэцца на жыццёвым шляху.



«Лімаўцы» віншуюць Аляксея Аляксеевіча з 75-годдзем, жадаюць яму доўгіх год жыцця, новых твораў.

# Міколу ТАТУРУ — 75

Мікалай Ігнатавіч належыць да пакалення, якое змагалася з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Удзельнічаў у партызанскім руху, быў цяжка паранены. З 1944 года працаваў рэдактарам, затым загадваў рэдакцыяй мастацкай літаратуры ў тагачасным Дзяржаўным выдавецтве БССР. У 1966—1970 гадах — дырэктар Літфонду, а да 1979 года — дырэктар Бюро прапаганды мастацкай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі.

Першыя пераклады зрабіў з рускай мовы: «Кладоўка сонца» М. Прышвіна /1948/, «Школа» А. Гайдара /1948/, «Стажары» А. Мусатава /1950/, «Паўночная Аўрора» М. Нікіціна, /1953, разам з В. Зубам/ і іншыя кнігі. Шмат займаўся таксама перакладамі з польскай «Мараль пані Дульскай» Г. Запольскай /1958/, паасобныя творы Я. Івашкевіча, Я. Гушчы, С. Лема, М. Канановіча... Дзякуючы М. Татуру па-беларуску «загаварылі» А. Вішня, Л. Первамайскі, А. Дзімараў, А. Шыян і іншыя украінскія пісьменнікі.

Плённа супрацоўнічае Мікола Ігнатавіч і з тэатрам: п'есы «Гросмайстарскі баль» І. Штэмлера, «Дзівак» Н. Хікмета, «Варшаўская мелодыя» Л. Зорына, п'есы для дзяцей. Акрамя таго, пераклаў на рускую мову «Папараць-кветку» І. Козела.



З днём нараджэння, шаноўны Мікола Ігнатавіч! Няхай і надалей Вам спадарожнічае жыццёвы і творчы поспех.

# Анатолю ДЗЯЛЕНДЗІКУ — 60

Асноўная прафесія Анатоля Дзялендзіка — урач. У 1957 годзе скончыў лячэбны факультэт Мінскага медыцынскага інстытута, з 1957 па 1968 год працаваў урачом у Рэспубліканскай псіханеўралагічнай бальніцы. Але цяга да літаратуры ўзяла, як кажуць, верх. Тым больш, што яшчэ ў 1955 годзе апублікаваў першае апавяданне. І ўсё ж, каб набыць пэўныя тэарэтычныя веды, у 1969 годзе завочна скончыў Літаратурны інстытут імя М. Горкага ў Маскве. На гэты час ужо меў кнігу гумарэсак «Пагібель Тытаніка», якая выйшла ў 1963 годзе. Шырокую вядомасць А. Дзялендзіку прынесла драматургія. Па яго п'есах былі пастаўлены спектаклі ў многіх тэатрах. «Выклік багам» /«Чатыры крыжы на сонцы»/, «Начное дзяжурства», «Аперацыя «Мнагажэнец» — гэтыя і іншыя спектаклі знаходзіліся нязменна ў полі зроку крытыкі, прыцягвалі да сябе ўвагу гледача.

Псіхалагічная драма А. Дзялендзіка «Чатыры крыжы на сонцы» набыла сцэнічнае жыццё ў 109 тэатрах колішняга Савецкага Саюза, а таксама была пастаўлена ў Польшчы, Чэхаславакіі і Югаславіі.

Анатоль Дзялендзік таксама напісаў некалькі аднаактовак, сцэнарыяў тэлефільмаў, мультфільма «Апошні прылёт марсіян».



Віншуем Анатоля Андрэевіча з юбілеем, жадаем яму і надалей трымаць пяро вострым!

# Юзафу ОЗГА-МІХАЛЬСКАМУ — 75

7 сакавіка сустракае сваё сямідзесяціпяцігоддзе вядомы польскі пісьменнік і публіцыст, дзяржаўны дзеяч, даследчык і перакладчык беларускай літаратуры Юзаф Озга-Міхальскі. Яго набыткі важкія як у галіне прозы, так і паэзіі, але хацелася б звярнуць найпершую ўвагу на тыя моманты ў біяграфіі нашага сябра, якія тычацца сувязі з беларускай зямлёй.

Озга-Міхальскі пераклаў на польскую мову верш Я. Купалы «Роднае слова» /«Магутнае слова ты, роднае слова!»/. Прысвяціў класіку нашай літаратуры і свой уласны верш — «У стагоддзе нараджэння Янкі Купалы». Творчасць Я. Купалы ён разглядае ў артыкулах «Думкі пра Купалу», «Не для славы і лаўраў»...

Паэзія Ю. Озгі-Міхальскага гучала па-беларуску дзякуючы М. Танку, Р. Барадуліну, П. Макалю, Я. Семяжону.

Нельга не сказаць, што Ю. Озга-Міхальскі ўзначальваў у 1982 годзе Ганаровы камітэт па правядзенні Дзён беларускай літаратуры ў ПНР, прымаў актыўны ўдзел ва ўсіх значных мерапрыемствах, што тычацца дружбы і супрацоўніцтва паміж польскім і беларускім народамі.

Віншуем польскага сябра з 75-годдзем і зычым яму «сто лят».

# Міхалу КАНДРАЦЮКУ — 60

6 сакавіка спаўняецца 60 гадоў польскаму мовазнаўцу, доктару філалагічных навук, прафесару, аднаму з даследчыкаў беларускай мовы і літаратуры Міхалу Кандрацюку. У сваіх навуковых пошуках ён найпершую ўвагу ўдзяляе праблемам фанетыкі, лексікі, словаўтварэння, а таксама не забываецца даследаваць анамастыку гаворак Беласточчыны. М. Кандрацюк — сааўтар «Атласа ўсходнеславянскіх гаворак Беласточчыны», два тамы якога выйшлі ў 1980—1983 годах. Удзельнічаў ён і ў падрыхтоўцы да выдання сёмага тома вядомай працы М. Федароўскага «Люд беларускі», што пабачыў свет у 1969 годзе.

З днём нараджэння, дарагі спадар Кандрацюк! Далейшага Вам плёну на ніве навуковага пабрацімства!

ЛіМ
ЧАСАПІС



# «ГОЛАС ЧАСУ» ПРА... ЧАС

**З далёкага Лондана прыйшоў на Беларусь першы ў сёлетнім годзе нумар царкоўна-грамадскага часопіса «Голас часу». Сярод матэрыялаў — водгук Т. Буйко на артыкул І. Антановіча ў «Звяздзе» «Беларусы з-за мяжы і тутэйшыя», нарыс А. Баркоўскага «Нашы на Амуры», працяг публікацыі Ю. Свяржынскага «Галасы аб «Вялікай Айчыннай вайне» і ўдзел у ёй савецкіх і польскіх партызан», свайго роду экскурсія Н. Сцяжко «Па залах музея Алеся Белакоза». Змешчаны працяг успамінаў былога сябра Галоўнай управы Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі П. Навары. Ёсць інфармацыя з культурнага жыцця замежжа, паведамленні аб найбольш значных палітычных падзеях на Бацькаўшчыне.**

# У «СКАРБАХ СУСВЕТНАЙ ЛІТАРАТУРЫ»

**выйшаў ладны том вершаў, балад і драм Фрыдрыха Шылера. Яго паэзія прываблівала ў свой час Янку Лучыну, Максіма Багдановіча, Янку Купалу. Пазней яго драматургіяй захапіўся Кузьма Чорны і нават пераклаў на беларускую мову драму «Падступства і каханне». Другую драму — «Вільгельм Тэль» — пераўвасобіў па-беларуску Алесь Дудар. У прадмове Лявон Баршчэўскі /ён жа укладальнік тома, аўтар каментарыяў/ падрабязна прасочвае жыццёвы і творчы шлях выдатнага пісьменніка, гаворыць і аб ягонай папулярнасці на беларускай зямлі. У кнігу ўвайшлі як ранейшыя пераклады, так і спецыяльна зробленыя да гэтага выдання. Прынамсі, кола перакладчыкаў даволі шырокае — Юрка Гаўрук, Васіль Сёмуха, Яўген Бяласін, Мікола Ермалаеў, Лявон Баршчэўскі, Уладзімір Папковіч. Прадстаўлена некалькі вершаў і балад і найбольш шырока драматургія — «Падступства і каханне», «Дон Карлас, інфант гішпанскі», «Марыя Сцюарт», «Вільгельм Тэль». А вось наклад гэтага цікавага выдання — невялікі: усяго 2900 экземпляраў. Так што паспяшайцеся набыць яго.**

# НА ЧАРГОВЫМ ПАСЯДЖЭННІ

**бюро секцыі літаратуры для дзяцей і юнацтва Саюза пісьменнікаў Беларусі абмеркаваны падручнік для чацвёртага класа «Роднае слова», над якім працавалі Э. Агняцвет, педагог-метадыст Я. Івашуціч і мастак С. Волкаў. Уражаннямі аб ім падзяліліся А. Вольскі, У. Ягоўдзік, М. Яфімава, П. Місько, Н. Галіноўская. Э. Агняцвет расказала аб сваёй працы над падручнікам.**

# ШЧОДРАСЦЬ ПАЭТЫЧНАЙ НІВЫ

**Новая кніга Зміцрака Марозава «Сын чалавечы» выпушчана не дзяржаўным выдавецтвам, а прыватным. «Пасад» яно называецца. Дырэктар «Пасада» Л. Дайнека і прадмову «Ніва і ліра» напісаў, у якой заўважае, што «Зміцрок Марозаў прынёс у беларускую літаратуру трывожна-шчымлівы пах узаранай зямлі, гарачы гуд жніва з высокім сонцам і салёным потам, журбу лясных і палявых вёсачак, дзе жыве і працуе наш народ, вечнае чаканне мацярок, надзею на заўтрашні дзень і заўтрашні хлеб». У зборнік увайшлі новыя творы З. Марозава, а таксама вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы», прысвечаны памяці Анатоля Сербантовіча. Як вядома, А. Сербантовіч у свой час збіраўся падступіцца да гэтага найскладанейшага паэтычнага жанру, ды заўчасна пайшоў з жыцця. З. Марозаў стаў першым і на сённяшні дзень адзіным сярод літаратараў славянскага свету, хто мае на сваім творчым рахунку вянок вянкоў санетаў. Прэм'ера кнігі «Сын чалавечы» прайшла ў Доме літаратара. Вёў сустрэчу дырэктар выдавецтва «Пасад» Л. Дайнека. Ухвальнае слова пра новы зборнік З. Марозава і ўвогуле пра яго творчасць гаварылі старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі В. Зуёнак, намеснік старшыні — А. Пісьмянкоў, К. Камейша, В. Рагойша. Барысаўскі тэатр «Відарыс» падрыхтаваў кампазіцыю па творах віноўніка ўрачыстасці.**

Паэзія

Алена ВАСІЛЕВІЧ



# РАДКІ — БЕЗ ЧАСУ

## 1. ЖАНЧЫНА

Забыла вас...
З усмешкай ўспамінаю Высокае акно...
О, ўсемагутны час!
Не прагну стрэч,
Званкоў больш не чакаю.
Жыву. Смяюся.
Я — забыла вас?

Я з мёртвых уваскрэсла.
Моцны божа!
Са жменькі попелу паўстала я.
З сусветнага ўзнікла бездарожжа.
А — вы? Як — вы?
Як служба?.. Як сям'я?..

Мне позірк ваш
Глядзіць здалёку ў вочы.
Забыты незабыўны Час!
Завуць мяне...
Кажу вам: «Добрай ночы...»
Я — не адна.
Я не забыла вас.

## 2. МАЦІ

Згубіла хлопчыка свайго.
З даверлівымі, яснымі вачыма.
Дзе зваць яго?
Пытацца — у каго?
Дзе?
За якімі зачыніўся ён дзвярыма?

Сядзіць чужы, панылы чалавек.
Рукам далёкім месца не знаходзіць.
Мінуўся цэлы — дзіўны! — век.
І маці позірк свой адводзіць.
...Як ён смяяўся!
Як ён горка плакаў!
— Ідзі, сынок...
Даведаўся — і дзякуй.

## 3. Я — САМА
/імгненні/

•

Па Вогненнай зямлі
Гуляе ў белым сцюжа.
У бухце Провидения
Паснулі... карасі.
Патух Маяк.
Вы — помніце?..
І тужыць Надзея Добрая.
Каго мне ўпрасіць
Вярнуць ізноў ёй *добрую надзею?*

•

Замёрз праліў Падэкале.
А чоўну сніцца цёплы бераг.
Трымае хвалю ён аберуч
Пакорную і зманную...
Але —
Замёр праліў Падэкале.
Замёрз.
Замёрз.

*/Зіма ў Нясвіжы/*

•

Сумны,
Сеецца...
Сеецца...
Дожджык.
Над Дняпром
Правісае імгла.
Я была маладой і прыгожай.
Я шчаслівай тут колісь была!

*/Кастрычнік у Рагачове/*

•

Скасіла хараство каса.
І склала роўненька ў пракосы
Смех красак
У ірдзяных росах.
Травы зялёны адгалосак...
— Прачніся, боская краса! —
Ціхутка шэпча дожджык босы.

•

Сплываюць дні мае.
Сплываюць.
Як гэта бежанка-вада.
І, зможаная, упадае
Мая імклівая хада.

*/Лета на Іслачы/*

## 4. ЗАМЕСТ ЭПІТАФІІ

Спыніцеся!
Пастойце не ў скрусе.
Засмейцеся!
Успомніце мяне...
Я вас пачую.
Я вам адгукнуся
З майго
Далёку...

Зінаіда ДУДЗЮК



# БАЛАДА ПРА ЗГУБЛЕНАЕ ІМЯ

Выбраў Бог табе месца, Радзіма, —
Не аб'ехаць, не абысці.
Калі Волата ты нарадзіла,
Поп з ксяндзом прымчалі хрысціць,
І дзялілі, і рвалі без жалю,
Нібы чыстае цела Хрыста.
Толькі што б там ні выпадала,
Волат годна ў вяках падрастаў.
Меў сумленне, і гонар, і сілу,
Як належала — сейбіт, ваяр.
І якая бяда ні касіла б,
Непарушна і цвёрда стаяў.

Надламала пустая прычына —
Тлумачэння другога няма.
З даўніх тых апраметных хрысцінаў
Страціў Волат святое імя.
Схамянуўся — пытаўся ў суседзяў,
Хітра клікалі тыя ўсяляк.
Да варагаў і грэкаў паездзіў,
А імя не знаходзіў ніяк.
Мо бязродны загінуў бы нават,
Ды ратуе зямелька свая.
І вяртае і слова, і славу,
І загубленае імя.

•

Па дажджах праліўных сярод лета
Пераходжу я ліпень уброд.
Мне патоп абяцаюць прыкметы
Ці нішчымны, бязрадасны год.

Ах, ці мала зазналі мы бедаў,
Што агнём выпякалі жыццё?
Пра наступнае лепей не ведаць,
Каб спакойна ісці ў небыццё.

Уваскрэснуць жывым у надзеях,
Пераждаць нелюбоў, недарод.
Як сяброўка мая маладзее,
Пераходзячы ліпень уброд!

•

Скрозь дым вякоў і будняў турботы
Даносіць песня памяць пра Дунай;
Пра дзіўны лотас нагадае лотаць —
Патайна адгукнецца даўніна!

Маліўся прашчур: «Дай мне сілы, Агні!»
І я штодня распальваю агні,
Сушу душы затоеную багну,
Каб і сябе, і род абараніць.

У кругаверці ўсёсусветнай драмы,
У каранях найстарадаўніх слоў
Галініцца святое слова — мама,
І вечнае, натхнёнае — любоў.

•

Той першы снег прыйшоў, як муж чужы,
Апоўначы, употайкі, нясмела.
І кожная сняжыначка бялела,
Збіралася няўтольна доўга жыць.

Той снег растаў апоўдні неўпрыкмет.
Ні шкадавання ў сэрцы, ні трывогі.
Зямля ў палоне соннае знямогі,
Пажадліва яе цалуе свет.

•

Міжвольныя сказаны словы
Пад шэпат лістоты млявай.
Дрэвы для нас не сховы,
Адкрыты мы небу і травам.

Нябачныя нечыя душы
У вочы ўзіраюцца нашы,
І нельга нічога парушыць,
І нельга нічога зыначыць.

Вякі прашумелі над намі
Ці, можа, толькі імгненні.
Між намі — мінулага здані,
Між намі — наступнага цені.

Дэбют

Ірына ХАДАРЭНКА



Ірына Хадарэнка /Шумская/ нарадзілася ў 1976 годзе ў Мінску. Скончыла музычную школу, потым гімназію імя Ф. Скарыны. Зараз — студэнтка БДЭУ. Друкавалася ў «Маладосці», «Першацвеце», «Вясёлцы».

•

З упартай сілай лёс імкнецца
Зрабіць мяне абмежаванай
І да ўсяго прыстасаванай.
Ці гэта толькі мне здаецца?

Усё жыццё мне давядзецца
Прытрымлівацца нейкіх рамак
І думак выбіраць напрамак.
Ці гэта толькі мне здаецца?

Куды ад роспачы мне дзецца?
Трывожны смутак нарастае,
Як ланцугом мяне сціскае.
Ці гэта толькі мне здаецца?

Пакуль жыву і сэрца б'ецца,
Не супакоіцца свядомасць.
Я ціха крочу ў невядомасць.
Ці гэта толькі мне здаецца?

•

*У родным краю ёсць крыніца*
*Жывой вады.*
*Там толькі я змагу пазбыцца*
*Сваёй нуды.*
*М. Багдановіч.*

Душа мая — вандроўніца,
Што, прагнучы напіцца,
Шукае і не стоміцца
Чароўную крыніцу.

Хутчэй знайсці яе, хутчэй!
Яна цячэ, бруіцца
Далёка ад чужых вачэй,
Як быццам таямніца.

Я сцежку да крыніцы той
Шукаць упарта буду.
Там толькі я знайду спакой
І смутак свой забуду.

•

Гэта я і быццам бы не я.
Так, відаць, жыццё мяне змяняе:
То як птушка, то — нібы змяя.
Часам добрая, а часам злая.

У люстэрка доўга пагляджу:
Гэта што за дзяўчына такая?
І між тым сама сабе скажу:
«Стала я цяпер зусім не тая.

Не, не тая, што была раней
Мілая, наіўная дзяўчына.
Я ўцягнулася ў жыццёвы глей,
Пачала шукаць быцця прычыны».

Нейкі сум прагляне з-пад павек.
Думаецца з гэтакай нагоды:
Гэтак і сталее чалавек
Па закону матухны-прыроды.

*г. Мінск*

***Людміла Андзілеўка нарадзілася ў 1958 годзе ў горадзе Глыбокае. Закончыла Наваполацкае музычнае вучылішча і Мінскі інстытут культуры. Працуе ў музычнай школе г. п. Падсвілле. Яе кароткія апавяданні, абразкі нагадваюць дзённікавыя запісы, шчырыя дыялогі з сустрэчнымі людзьмі.***

***Аўтарка пераканана, «што кожны чалавек мае права сказаць гэтаму свету ўсё, што пра яго думае, асабліва, калі мае што сказаць».***

***Дадамо да такога прызнання, што важнейшай адзнакай творчасці з'яўляецца тое, як сказаць пра перажытае, адчутае, убачанае.***

***Абразкі, якія сёння змяшчае штотыднёвік, пацвярджаюць, што Л. Андзілеўка ідзе сваёй сцежкай, імкнецца зазірнуць у чалавечую душу, адчуць яе зрухі, абудзіць словам, даверлівай інтанацыяй добры настрой, выклікаць на суперажыванне.***

***Юрась СВІРКА***

Людміла АНДЗІЛЕЎКА

# АБРАЗКІ



## АПОШНЯЯ ДАРОГА К ДОМУ

Спякотным летнім поўднем аўтобус вёз сваіх пасажыраў звычайным рэйсам Полацк — Глыбокае. Сонца смаліла ў вокны, вопратка прыліпала да цела, ногі зацякалі, а на пыльным твары прабіваўся пот. Яшчэ добра, што пасажыраў было толькі «сядзячых» — будні ж дзень.

На першым месцы за шафёрам сядзела бабка, амаль што звычайная, якіх сустрэнеш — не запынішся, толькі гэтая чамусьці больш выклікала ціхага жалю. На першы погляд, усё ў яе як у астатніх жанчын таго ж узросту і жыццёвых абставін. Адзенне жабрачкі: штапельная хусцінка, даўніх гадоў спадніца, старэнькі швэдар. Худыя вузлаватыя рукі, наіўны выгляд твару... Вось што выклікала жаль — бабчына наіўнасць. Відаць было, што яна не выязджала «ў свет», што жыла ў нейкай маленькай вёсачцы, бо даўно ўжо людзі ў гарадах, ды й пасёлках не звяртаюцца адзін да аднаго з гэткай даверлівай адкрытасцю — як да знаёмых або родных. Цяпер рэдка хто наогул зачэпіць папутчыка, каб проста пагаварыць, без патрэбы. А бабка ціхенька, па-дзіцячы, ні з кім, але ўвесь час размаўляла, надакучліва звяртаючыся то да аднаго, то да другога пасажыра. Тыя адразу адварочваліся ці раўнадушна глядзелі на яе. Старая не заўважала крыўды, пэўна, і не здагадвалася, чаму яны гэтак робяць, бо, па яе жыццёвым вопыце, людзі не маглі за такое крыўдзіцца. І не было ў іх таксама прычыны крыўдзіць яе.

— Піць крэпка захацела, але не было вады, дык далі піва. Ап'янею, пакуль даеду, — хіхікнула яна і некалькі разоў зрабіла па глытку. Дзве бутэлькі піва стаялі доле, ля ног. Пад сядзеннем ляжалі нейкія клуначкі, ванзэлкі. Старая ўвесь час корпалася ў іх, і ўрэшце бутэлькі паваліліся, а піва расцяклося па гумовай падлозе. Яна збянтэжылася, стала, седзячы, выціраць яго газетаю. І ўсё нешта гаварыла мяккім, ясным голасам, хоць ніхто яе не слухаў.

Так паводзяць сябе людзі, калі жадаюць за бясконцай гаворкай «ніабчым» схаваць нешта ў сваёй душы, баючыся астацца сам-насам з думкамі.

Калі пад'язджалі да апошняга прыпынку, бабка папрасіла шафёра, каб завёз яе ў Петрунова. Ён, па ўсім відаць, хлопец дабрадушны, некалькі разоў цярпліва адказаў, што гэта зусім не па яго маршруце.

— Сынок, дык казалі — недзе тут, каля Глыбокага.

— Што ты, бабка, у мяне час, расклад, паліва казённае. Пасажыраў жа вязу.

— Людзі не пакрыўдзяцца, я ж заплачу табе, дзетка.

Уразіла, што шафёр не губляў цярпення, жартаваў:

— Няхай сын раскашэліцца на таксі, пэўна ж да ўнукаў спяшаешся?

Таксама дзіўны чалавек! Пашукаць такога! Мала што адказваў на кожнае пытанне, дык пачаў яшчэ распытваць пасажыраў:

— Дзе тое Петрунова, ці далёка, можа, па дарозе?

— Не, не па дарозе. У другі бок, за Глыбокім, хаця і не так далёка.

Старая не здавалася, падміргнуўшы ўсім:

— Ну, дык, можа, падкінеш?

— А да каго ты гэтак едзеш?

— Дык там жа прыстарэлы дом. Запісалася я туды.

Ні кроплі жалю не адлюстраваў яе па-дзіцячы наіўны твар.

У салоне зрабілася празрыста, нібы ўсе прачнуліся. Пасажыры паціху апусцілі галовы.

## БІЛЕТ

Заўсёды, вяртаючыся з сесіі дамоў, пакідала грошы толькі на дарогу, бо хацелася прывезці больш радасных дробязей ці ласункаў. Калі апошні траяк ператвараўся ў білет, прарэзваўся здрадніцкі апетыт. А пончыкі, якія скрозь прадавалі, здаваліся духмяна-залацістай марай. У гэтым было нешта ганебнае і прыніжаючае, але й прымешвалася асалода перамогі над плоццю.

Перацярпеўшы вакзальную мітусню, урэшце села ля вакна. Летам дарога цягніком не цяжкая. Мяняюцца пейзажы, сонца высока — можна моўчкі глядзець у вакно і разважаць. Ды й не такі дальні шлях той Мінск — Падсвілле.

Ужо заставалася некалькі прыпынкаў, як па вагоне пайшоў шорах: «Кантралёр!»

Людзі пачалі поркацца ў сумках, шукаць па кішэнях. Добра ведаючы, дзе мой білет, нервавацца не стала, ды — ці лёгка ж знайсці маленькі кавалачак кардону сярод мноства папер і дробязей?

— Не ведаю, дзе ён мог дзецца...

Погляд кантралёра быў не злосны, але са скептычнай усмешкай.

Падняла збялелы твар, было ўжо няёмка доўга корпацца ў сумцы.

— Ну што ж, дзяўчына, плаці.

— У мяне няма ні капейкі...

— Тады будзем афармляць паперу. Як прайду вагон — зойдзеш у правадніцкі пакойчык.

Калі падала пашпарт, яго твар выражаў не так казённы, як звычайны чалавечы інтарэс. Спачатку раскрыў той ліст, дзе прозвішча. Змераўшы адпаведнасць асобы году нараджэння, здзіўлена прамовіў:

— Думаў, зусім дзяўчо.

Паволі перапісаўшы адрас, паглядзеў у лісток аб грамадзянскіх даведках. Яго бровы палезлі ўверх, калі ўбачыў запіс трох дзіцячых імёнаў:

— Вось дык зайчык! А дзе працуеш?

— У музычнай школе.

— Прыйдзецца начальству ліст адсылаць, — няўпэўнена сказаў ён.

Пахітаўшы галавой, вярнуў дакумент:

— Добра, ідзіце, калі ласка.

Сеўшы на месца, было сорамна мне павярнуць галаву, бо адусюль глядзелі цікаўныя вочы, быццам жадаючы разгадаць нейкую таямніцу.

Кальнула думка: «Я ж мыла рукі — ці неываліўся ён з кішэні там?» Пабегла ў канец вагона. Так і ёсць, ляжыць на падлозе. Падняла, абцерла насоўкай і, свецячыся радасцю, прынесла ў той самы пакойчык.

— Вось ён! — не сумеўшы стрымаць усмешкі, працягнула кантралёру білет.

І яго твар упрыгожыла ўсмешка.

— Не памыліўся... Даўно тут раблю. Па вачах людзей бачу. Добра, я і так не паслаў бы ліст, але ж трэба было паглядзець, што за чалавек, можа, прайдзісветка якая? Не памыліўся...

Вярнуўшыся да свайго вакна, на душы адчула лёгкасць і ўтульнасць. Захацелася скруціцца клубочкам, як малому дзіцяці, і падрамаць. Добры чалавек, думалася, не абразіў, не чапляўся і не раўнадушны.

Але людзі заварушыліся, цягнік прыпыніўся, трэба было выходзіць.

## ЦЁТКА НІНА

## /Успамін/

Калі я чую песню пра лябёдзіцу, у галаве ўзнікае ўспамін дзяцінства. Нясе цётка Ніна поўныя вёдры вады на карамысле — так лёгка, паволі, нібы плыве. Гэтак жа яна ішла з граблямі, з даёнкай, несла дровы... Ладная, прыгожая, ды не той красой, што інстынкты абуджае, а той, якой у ногі хочацца пакланіцца.

Досыць дасталося на яе век бядыгора. На ўсе выпадкі адзін адказ — дзве пякучыя слязы і — ці то ўздых, ці то стогн. І больш нічога. Быццам знала, колькі выпрабавання яшчэ наперадзе — беражы сілы!

Палова з народжаных дзяцей памерла. Пра гэта даведалася, неяк знайшоўшы памінальную запіску.

— Хто гэта, цётачка, — Волька, Зося, Пётра?

— Дзеткі мае, маленькія памерлі.

Па той прычыне да Спаса яблыка ў рот не брала. Наліўныя, чырвоныя, салодкія: дакляруюць пазбавіць смагі ў перасохлым роце, вабяць вока — спякотай мала хто стрымліваўся.

Дзядзьку, мужа яе, слаба памятаю, не запаў у душу. Многа хварэў, усё жыццё лячыўся, але выпіць любіў, пабурчэць, упікнуць. Пра такіх кажуць: цяжкі чалавек. Ды ўсё ж Ніна ў хаце была галавой. Дайсці не магу, як гэта ў яе атрымоўвалася — ніколі не спрачалася, раптам змаўкала, але было відаць, што думкі не зменіць. Нешматслоўная, ціхая, а столькі ў яе волі, нейкай нябачнай сілы, што экстрасенс можа пазайздросціць.

Бывала, дурэем /а ў цёткі нас, нахлебнікаў, з усіх бакоў радні! Улетку наязджалі — што вытваралі!/, і толькі ўжо калі нельга было не спыніць нашы гульні, яна вымаўляла: «Няволля так рабіць». Няма такога слова ў нашай мове, і ўлавіць яго паходжанне цяжка, але ў дзяцінстве яно ўсім было зразумелым: азначала не мець усмешкі на мілым твары. Ніхто не енчыў, не капрызіў перад ёй, хаця ніколі не чулі благога слова.

Прыйшоўшы з поля, кожны вечар яна «спаўняла рытуал» — акуратна даставала з-за абразоў вучнёўскі сшытак і ставіла ў ім чарговую рысачку — працадзень, гэтак жа акуратна клала яго на месца. Здавалася, гэта яе справаздача перад Богам.

Калі ішла ў царкву, усю дарогу маўчала. Жанчыны не звярталіся да яе, бо ведалі — дарэмна, суровы погляд казаў: «Няволля». Перад вёскай, прысеўшы, абцірала ногі анучкай і абувала туфлі, каб зайсці ў царкву. Выйшаўшы, зноў клала іх у сумку.

Памёр дзядзька, ды трэба ж было падгадаць — як з хутара ў вёску перавозіцца загадалі. Памёр зяць, пакінуўшы малых дзяцей. І гэтым не скончылася — неўзабаве і Верка памерла, нявестка. Асталіся ўнукі ў тым узросце, калі галавой да гора яшчэ не дараслі, а сэрцам ужо дакрануліся.

Зноў — закасвай, Ніна, рукавы! Бытта лёс захацеў дазнацца, колькі ж вытрымае гэта жанчына, калі сагнецца? Не! Тая ж постаць, ні слова аб крыўдзе.

— Ніна, Ніна, усё жыццё біліся, як рыба аб лёд, капейку да капейкі складалі, думалася — дзецям не змаглі, дык унукам дапаможам. А што з нашымі грашыма зрабілі? Што з нашых грошай цяпер?

— Ат, — уздыхала яна, — было б гэта астатнім горам.

Даўно не бачыліся...

Аднойчы спяшаюся ў раён. Па дарозе праз лес жанчына паціху ідзе — высокая, прамая. Той жа, Нінчын, поступ. Прыпыніліся.

— Адкуль вы?

— З бальніцы, аперацыю рабілі. Выпісалі сёння...

— Пехатою? Адна?

— Трэці дзень рэйсавага няма.

— Няўжо не было каму забраць?

— Няма, дзетка. Сынка з арміі ў жалезным яшчыку прывезлі.

Здавіў ком у горле — успомнілася цётка Ніна.

Не прывыкшыя ўслых разважаць, не здольныя гаворкай ля студні крыху развеяць думкі — дзе, у чым ёсць іх выйсце? У якой веры і ўпэўненасці, што дае ім магчымасць зноў адолець лёс і глядзець наперад?

## ЗДРАДА

...Ішла, ішла па вясковай дарозе. Валакла, падштурхоўвала яе нейкая неймаверная сіла, бо сваёй не было ўжо нават на тое, каб завыць.

Калі машына стала, а яе выкінулі ў воблака пылу, яна анічога не зразумела. Кінулася ў адзін бок, у другі — вакол ні дрэўца, ні кусточка. Толькі дарога з глыбокімі рвамі паабапал — ці ёй пераскочыць...

А больш за ўсё хацелася легчы, бо даўно ўжо ў яе балелі ўсе костачкі і суставы, і не было ў целе ніводнага месца, якое б не балела, не трывожыла. Так цяжка, так сумна, так хочацца завыць, але няма сілы. А найгорш непакоіў вялізны жывот, ён адбіраў апошнія сілы, хацелася заваліцца тут жа, у пыл, у гразь і сканаць...

Калі скрозь цемру засвяціўся агеньчык, а з хлява пацягнула асаблівым водарам, яна ўжо і не памятала, як асунулася ля стога сена. І раптам нешта незнаёмае здарылася з ёй: там, ля ног, заварушылася жывое і цёплае. Глыбокі жаль змяніў усе астатнія пачуцці — ні болю, ні цяжару, ні крыўды ад здрады, толькі трывога і жаль да таго, што варушылася і смактала яе жывот.

Так ціха зрабілася, так лёгка, утульна на гэтай саломе, што ноч адным подыхам як сустрэла, так і развіталася з ёй.

Калі стала святлець у небе, вярнуўся неспакой, прадчуванне бяды, жудасны голад. Наструнілася — ад хлява ішоў чалавек, у руках ён нёс вілы.

Вочы бачылі толькі іх вострыя зубцы, а ў галаве — тое жывое, што смактала з яе малако.

Не дайшоўшы некалькі крокаў да стога, чалавек стаў, здзіўлена пагледзеў. Яшчэ імгненне — яна кінецца на яго...

— Бедалага, хто ж гэта цябе падкінуў у такім стане? А хазяйская ж была, з ашыйнікам. І колькі ж іх у цябе, шчанюкоў?

Яна схіліла набок галаву, быццам прыслухоўваючыся адным вухам, у сумных вачах загарэлася надзея...

Чалавек цёплай рукой дакрануўся да яе галавы.

## МІРАЖ ДЛЯ СЯМЕЙНІКАЎ



**Калядны міраж /так вызначаны жанр спектакля/ «Міа, мой Міа!» паводле казкі А. Ліндгрэн, рэжысёр Алег Жугжда прысвяціў міжнароднаму году сям'і і скарыстаў прэм'еру як нагоду шчыра і далікатна зацікавіць магілёўскія сем'і тэатрам. Магілёўскі абласны тэатр лялек 30 снежня леташняга года, напярэдадні самага Новага года, прадставіўся гледачам з самага... «сямейнага» боку: напраўду, што ёсць зладжаныя, зацікаўленыя ў агульным поспеху службы тэатра, як не свайго роду сям'я? Знаёмства з тым, як гэтыя «сямейнікі» рыхтуюць спектаклі — штукуюць лялек, дэкарацыі, рэпеціруюць, як працуюць на сцэнічную ўдачу людзі самых несцэнічных прафесій, адбылося перадусім для гуртkoўцаў і іх бацькоў, — для тых, хто па сваіх школах ды клубах далучаюцца да складанасцей і радасцей тэатральнага свету. А што да самога спектакля, дык драматургію распрацоўвалі Святлана Клімковіч і Алег Жугжда, ставіў спектакль, шчыраваў над яго пластычным бокам і займаўся харэаграфіяй таксама Алег Жугжда, лялькі і сцэнаграфію прыдумала Ларыса Мікіна, а музыку — Павел Кандрусевіч. У ролях заняты Таццяна Сіпайла, Ганна Лазуціна, Ларыса Мікуліч, Галіна Барысава, Анатоль Мікалаюк, Мікалай Сцешыц і іншыя.**

*На здымку: сцэны са спектакля «Міа, мой Міа!».*

*Фота Алега ЖУГЖДЫ.*

## «ДАГАРЭЛА СВЕЧАЧКА...»

**Так называецца новая п'еса Алеся *Петрашкевіча*. «Матулі ад сына» — *гэтае* прысвячэнне ў многім вызначае і накірунак гаворкі драматурга. Пра наш час і месца ў ім пакутніцы-жанчыны, якая заўсёды несла на сваіх плячах асноўны цяжар жыццёвых нягод, а калі і былі радасці, дык рэдкія. Прынамсі, нялёгкае жыццё і ў галоўнай гераіні п'есы Марфы, якая вымушана назаўсёды развітвацца з роднай вёскай, бо тая апынулася ў чарнобыльскай зоне. Аднак Марфа не толькі гаротніца-пакутніца, яна і чалавек светлы, які не страціў душэўнай цеплыні і шчодрасці. І уласных каранёў не пазбавіўся. А тое, што Марфа знітавана з матчынай зямлёй, сведчаць і яе песні, якія арганічна ўваходзяць у сюжэтную канву твора. Песні на словы народнага паэта Беларусі Ніла Гілевіча... З лёсам Марфы і з лёсам яе роднай вёскі Славень змаглі пазнаёміцца тыя, хто прыйшоў у Дом літаратара на вечар, прысвечаны 25-гадоваму юбілею Бялыніцкага народнага тэатра юнага гледача. Гэты калектыў неаднойчы выступаў перад пісьменнікамі. І вось — свайго роду справаздача. Ды не рэтраспектыўны паказ, калі прапануюцца ўрыўкі з розных работ, а прэм'ера.**

**«Дагарэла свечачка...» — спектакль не для абыякавых. І спектакль для тых, хто любіць сваю шматпакутную зямлю. Менавіта да такой высновы прыходзіш, прагледзеўшы новую работу бялынічан і рэжысёра тэатра Валянціна Ермаловіча. Не лішне нагадаць, што мінулай восенню са спектаклем «Дагарэла свечачка да палічкі...» мінчане і госці сталіцы маглі пазнаёміцца на гастролях Гомельскага абласнога драматычнага тэатра.**

## «МЕНЕСТРЭЛЬ-94»

**Традыцыйны фестываль гітары ладзілі віцябляне. «Менестрэль-94» адрозніваецца ад сваіх папярэднікаў тым, што пашырыў жанравыя межы, і поруч з гітарнай класікай на ім былі прадстаўлены разнастайныя апрацоўкі/. 25, 26, 27 лютага ў Палацы прафсаюзаў выступалі ўдзельнікі фестывалю, сярод якіх У. Захараў /Гродна/, С. Краўчук /Віцебск/, М. Радзюкевіч, С. Аракелян з Пецярбурга і шмат масквічоў: А. Альшанскі, У.Усцінаў, І. Смірноў, Ю. Ваграгская ды інш. Арганізатары «Менестрэля-94» — Палац прафсаюзаў, Віцебскае музычнае таварыства, фірма «Арт-марк».**

Музыка

# ПРАЗ МЕЖЫ — ДА СВЯДОМАСЦІ

## З НАГОДЫ ТРОХ КАНЦЭРТАЎ

НІ Ў ЯКІМ РАЗЕ нельга радавацца! У цяперашніх культурных людзей, асабліва ў тых, каго называюць крытыкамі, пераважае акурат гэты прынцып: не радавацца! Іграе музыкант класіку — пажурыць яго, артадокса! Калі прапануе нешта эксперыментальнае — журыць, каб не выдурняўся. Калі бярэцца за папулярны рэпертуар — журыць, бо працуе на публіку, дзеля танных апладысментаў. А займецца недаследаваным, па розных прычынах забытым або выкінутым з гісторыі, — журыць як палітычнага спекулянта і кан'юнктуршчыка.

Да ўсяго, вам панура патлумачаць: «Уменне радавацца — прывілея дылетантаў!»

Аднак не спяшайцеся апраўдвацца ці абвяргаць: радуйцеся! Радуйцеся за «злосных *кан'юнктуршчыкаў», якія склалі дыхтоўны кан*цэртны цыкл з музыкі т. зв. замежных беларускіх кампазітараў. Радуйцеся за музыку, якою «афіцыйная радзіма» /а следам і навука/ *доўгі час пагарджала як* — у горшым варыянце — прыблудай і здрадніцай або — у лепшым — як чужародная падчаркай: нарэшце гэтую музыку публічна прызналі крэўным дзіцём беларускай культуры. Прызналі сур'ёзныя паважаныя музыканты. Насуперак маўклівай нязгодзе, а то і галасным пратэстам сваіх не менш сур'ёзных калег. /Незразумела? Перачытайце публікацыю ад пачатку/.

Без дай прычыны абмінуць тыя тры канцэрты — было ўсё роўна, што прагуляць урок. Праўда, у адрозненне ад апантаных шчырасцю краязнаўцаў, гатовых неперабарліва пяяць пра занядбаныя шэдэўры, я менш за ўсё ўспрыняла памянёны канцэртны цыкл як нейкае «выхаваўчае эстэтычным адкрыццём». За тры вечары атрымала я куды больш складаны Урок, шматзначны, палемічны, які немагчыма засвоіць механічна і з ходу. Яго трэба трымаць у памяці, аналізаваць, асэнсоўваць. Пасля яго можна бясконца разважаць наконт гісторыі, грамадзянскасці, філасофіі жыццёвай і духоўнай, наконт менталітэту і маральнасці, прафесійнага абавязку і прафесійнага кампрамісу, снабізму, інертнасці эстэтычных крытэрыяў і стэрэатыпнасці навуковых ацэнак, рэлятывізму ў музычных густах і моды ў мастацтве. Разважаць і спрачацца...

Спадзеючыся на дасведчанасць чытачоў, я *дасюль нават не назвала канцэрты, пра якія* гаворка. Вядома ж, пра цыкл «Каляды ў «Беларускай Капэле»: нічога іншага падобнага ў нас проста не было! Напярэдадні падзеі мастацкі *кіраўнік творчага аб'яднання «Беларуская Ка*пэла» В. Скорабагатаў выкладаў у «ЛіМе» даволі падрабязную праграму, называўрасшыфроўваў імёны беларускіх кампазітараў, чыя музыка для нас, па сутнасці, «замежная», бо знаходзіцца яна **па-за межамі нашай свядомасці** /вызначэнне літаратара і даследчыка У. Мархеля/.

Што паспрыяла гэтай, ці не першай у такім аб'ёме, спробе скасаваць умоўныя межы і пераадолець рэальныя, каб вярнуць на радзіму «замежную» беларускую музыку, наблізіўшы яе да нашай свядомасці? У агульным сэнсе — ідэалагічная адліга, разняволенне працэсу адраджэння, доўгачаканая адкрытасць у зносінах з беларускай дыяспарай, яе культурнымі цэнтрамі на Захадзе. Канкрэтна — леташні двухтыднёвы візіт дырэктара «БК» Я. Паплаўскага ў Лондан, праца над музычным архівам бібліятэкі імя Ф. Скарыны /пра гэта мы падрабязна пісалі/.

Лонданскі нотны ўзятак і склаў аснову таго музычнага каляднага *пачастунка, які з часам* у той або іншай форме можа быць штодзённай спажывай і для музыкантаў, і для слухачоў.

ЗРАЗУМЕЛА, каб рабіць высновы пра *мастацкія ці прафесійныя вартасці незнаёмай* музыкі, трэба яе слухаць. І пажадана — не ў абы-якім выкананні. «Беларуская Капэла» сваім міні-фестывалем такую магчымасць дала. І *добра, што захавала ў практыцы* традыцыйнае асветніцтва: перад першым канцэртам з уводным словам выступіў пісьменнік А. Мальдзіс, чыя даследчыцкая дзейнасць дала стымул нашым гісторыкам музыкі, а наступныя праграмы каменціраваў мастацкі кіраўнік «БК». Надзвычай важна, што раздрукаваныя кароткія звесткі пра кампазітараў, чыіх імёнаў пакуль няма ні ў падручніках, ні ў энцыклапедыях, можна было набыць пры ўваходзе ў залу. А вось на праграмкі пашанцавала не ўсім: вельмі прыкра, што іх мізэрнага тыражу не хапала нават на зацікаўленых спецыялістаў.

А што ж сама музыка?

Вакальны вечар, падрыхтаваны В. Скорабагатавым з піяністкай Г. Каржанеўскай, поўніўся стракатымі вобразамі. Тут былі акварэльныя мініяцюры Э. Зубковіч на вершы Н. Арсенневай «Знае сэрца» /»Сыплюць золата з косаў бярозы»/ і «Калыханка» /sotto voce барытона чароўна гарманіравала з «табакерачным» гранням раяля/. Тут была трагічная песня Я. Тарасевіча на верш М. Багдановіча «Даўно ўжо целам я хварэю». І драматычны беларускі «Палыночак» у апрацоўцы М. Зінчука, і пранізлівы раманс Р. Самохіна «Кветы чырвоныя» на тэкст невядомага аўтара. Была цэлая старонка спадчыны М. Шчаглова-Куліковіча: узнёсла-вальсавая «Зорка Венера» /верш М. Багдановіча/; кідкая, гучная апрацоўка народнай песні «Ой, хадзіў-гуляў малойчыку»; расквечаны пачуццёва-духмянымі, ці не джазавымі гармоніямі, лірычны абразок «У змярканні» */верш Я. Коласа/; звонкі ад смеху, дасціпна* апрацаваны народны жарт «Ой, у нашым сяле свадзьба будзе»... Выконвалася музыка А. Карповіча, і песня «Хадзіў-блудзіў казак», эфектна апрацаваная зусім забытым, хаця і не эмігрантам, кампазітарам А. Клумавым, і незвычайная элегія М. Равенскага «Менск», дзе голас гучаў у прыгожым атачэнні фартэпіяна і альта /А. Хахлоў/.



*На канцэрце з. а. Беларусі лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Віктара СКОРАБАГАТАВА.*

*Фота В. СТРАЛКОЎСКАГА*

Не парушылі гэтую «кампанію» і творы нашага сучасніка, піцерскага кампазітара і вучонага І. Мацыеўскага на вершы М. Багдановіча /«Пентаметры», «Трыялет».../, адметныя вельмі камернай і вельмі выразнай «моўнай» інтанацыяй. Аднойчы В. Скорабагатаў паспрабаваў параўнаць феномен І. Мацыеўскага, які ў сталым узросце адчуў магнетызм культуры, мовы сваіх продкаў і прыгарнуўся да беларушчыны, — з феноменам М. Багдановіча, беларускага паэта, чыё кароткае жыццё прайшло фактычна «пад дахам рускага дома». Але ж і *без параўнанняў відавочна, што творчасць Ігара* Мацыеўскага — унікальная і вартая падтрымкі з'ява ў сённяшняй беларускай культуры, прынамсі, у культуры нашай дыяспары, якая ў *новых сваіх пакаленнях імкліва страчвае* духоўную сувязь з Бацькаўшчынай.

У своеасаблівым фартэпіянным салоне І. Алоўнікава таксама былі прэм'еры: *пашапэнаўску меланхалічны* «Вальс» Я. Тарасевіча, прасякнутая знаёмымі песеннымі інтанацыямі «Вялікая сюіта» М. Равенскага, варыяцыі на тэму «Чаму ж мне не пець» Э. Зубковіч /у рэдакцыі І. Алоўнікава/, Шэсць эцюдаў М. Шчаглова-Куліковіча на беларускія тэмы, ягоная ж «Фантазія» — гэткая анталогія фальклору, артыстычна перастворанага для фартэпіяннай эстрады. Сюрпрызам сталася выкананне цыкла І. Мацыеўскага «Нядаўняе і далёкае» — твора з незвычайнай праграмай, дзе кожная з 12-ці п'ес-«ценяў» не толькі асацыіруецца, адпаведна канкрэтнай назве, з пэўным вобразам, але й нясе ў сабе філасофскае зерне. «Людзі паміраюць, будынкі зносяць, падзеі мінаюць — застаюцца цені...»

Піяніста-віртуоза І. Алоўнікава, які граў сваю праграму без антракта, настойліва выклікалі на «біс». І ён парадаваў публіку неўвядальным паланезам М. Кл. Агінскага «Развітанне з радзімай».

Завяршыў «Каляды ў «Беларускай Капэле» выбітны канцэрт мужчынскага камернага хору «Унія» пад кіраўніцтвам К. Насаева. Калектыў хаця і малады, але ў рэкламе ўжо не мае патрэбы. На гэты раз спявалі хлопцы асабліва цудоўна і натхнёна.

Беларуская духоўная музыка, у тым ліку й творы, якія «Унія» ўжо стала мае ў сваім рэпертуары. Імёны знаёмыя і не надта: В. Серях-Качанскі, З. Верасаў, І. Мацыеўскі, М. Равенскі, М. Шчаглоў-Куліковіч. Фрагменты Літургіі св. Іаана Златавуста М. Равенскага. «Веру» М. Куліковіча *з дзівосным, малітоўным тэнарам* саліста Я. Бурака і ягоны ж «Дар міру» з незямным харaством ансамбля салістаў...

Зусім іншая манера, зусім іншы, быццам *напоены моцаю зямлі, гук — і той самы хор:* «Унія» паказалася і ў народным рэпертуары /апрацоўкі М. Равенскага/. Высакародна і мужна прагучаў жалобны марш М. Куліковіча на вершы Я. Купалы «Спіце ўсе тыя» ды ягоная ж «Пагоня» на верш М. Багдановіча з салістам Я. Бураком. І на заканчэнне — ужо можна сказаць так, папулярная лірычная класіка: «О, Беларусь, мая шыпшына» /музыка М. Куліковіча, вершы У. Дубоўкі/.

Было зразумела, чаго яшчэ чакала публіка, зноў і зноў выклікаючы хор і нават выгукваючы вядомую назву. Здаецца, вось яно, нарэшце: зала сціхла — і... палілася цудоўная мелодыя Ю. Семянякі «Ты мяне вясною прыснілася». Хараша, брава, але... Але нарэшце загучала і доўгачаканае: «Магутны Божа». Зала слухала стоячы...

МІНУЛА ўжо нямала часу пасля каляднага міні-фестывалю, наладжанага «Беларускай Капэлай». Ад ранейшай сваёй думкі я пакуль не адмовілася: трэба парадавацца такой падзеі ды прыняць «калядны пачастунак» за спажыву на кожны музычны дзень. Якім чынам? Безумоўна, штосьці сплыве ў нотасховішчы і будзе з часам цікавіць толькі гісторыкаў, даследчыкаў. Але штосьці не сорамна ўключаць у канцэртны рэпертуар. Штосьці «просіцца» ў фонд Нацыянальнага радыё /і запісы, ведаю, ужо робяцца/. Штосьці варта скарыстоўваць у якасці педагагічнага рэпертуару. Пагадзіцеся, у тым, каб юныя піяністы пачыналі практыкаваць свае кволыя пальчыкі на п'есах, скажам, Э. Зубковіч, *колішняй загадчыцы кафедры* фартэпіяна Беларускай кансерваторыі, спецыялісткі з варшаўскай, берлінскай, штутгарцкай адукацыяй, — ёсць сэнс...

А *загаловак маіх сённяшніх нататкаў* — проста прыгожы эўфемізм. Больш праўдзіва было б сказаць: «Праз шоры — да самасвядомасці». Зрэшты, пра гэта ўжо сказана, і неаднойчы. Хто хацеў пачуць — пачуў, прыйшоў, паслухаў. Нягледзячы на заўсёдныя «але» — парадаваўся. Усім тром канцэртам, кожны з якіх суправаджалі авацыі.

**С. БЕРАСЦЕНЬ**

# АД СМІЛАВІЧ ДА ПАРЫЖА

## ДА 100-ГОДДЗЯ ХАІМА СУЦІНА

Відавочным стала за апошнія гады, што беларускае мастацтва не замыкаецца ў вузкіх геаграфічных межах. Раней за яго афіцыйна прызнавалася толькі існуючае ў рэспубліцы ды згодна з патрабаваннямі сацыялістычнага рэалізму, з усталяванай іерархіяй, са сваімі патрыярхамі і класікамі. Усё астатняе знаходзілася па-за крытэрыямі, «за бортом». Але нечакана гэтыя межы зніклі, і мы спрабуем па-новаму ўбачыць беларускае і выпрацаваць крытэрыі, якія не дазваляюць не запрыкмеціць сваё, крэўнае, не абысці ўвагай тое, што да беларускага мастацтва мае самае непасрэднае дачыненне.

Хоць, прызнацца, у некаторых ёсць сумненні, прыняць ці не прыняць яго, такое неардынарнае, аддаць яму належнае ці звыкла не заўважаць далей. А прызнаўшы выдатныя дасягненні беларускага мастацтва, не дазволіць перамагчы жаданню татальнага рэвізіянізму пазітыўнага ў яго сучасным рэалістычным напрамку, што даволі шырока расквітнеў на беларускай глебе. Бо паўнавартаснасць мастацтва залежыць ад яго свабоды ад усялякага манапалізму, стылёвага, тэматычнага альбо нацыянальнага.

Не так даўно пачаўся ў нас асабліва хвалюючы час «адкрыцця» імёнаў многіх класікаў сучаснага мастацтва, беларусаў, якія нібыта вяртаюцца да нас, слынныя і даўно прызнаныя ў свеце. Але найважнейшае прызнанне заўсёды — вядомасць на радзіме. Ці не тут чэрпаюцца першыя ўражанні, што часта насычаюць творчасць скразной настальгічнай прыгажосцю. Паскарынаўску дакладны вымяральнік гэткай крэўнасці, вышэйшай сувязі, так можна выславіць: «...чалавек да той зямлі, дзе нарадзіўся, вялікую ласку мае». Хоць лічаныя гады дзяцінства на ёй правёў, але ж ці можна яго адлучаць ад беларускага паходжання? А калі вучыўся ў Менску ці Вільні, пачаў тут маляваць свае першыя абразы? Не нам, вядома, пазбаўляць мастака яго творчага грамадзянства. Але чаму сусветныя энцыклапедыі мастацтва, не абмінаючы імёны выдатных творцаў, якія паходзілі з беларускай зямлі, называюць іх радзіму то Расеяй, то Жамойцю. Зноў наша беларуская «незалатрабавальнасць», што ніяк не стасуецца з неабходнасцю давесці сабе і свету правы і абавязкі адносна землякоў, за якіх нашай радзіме толькі гонар між народамі?

Зрэшты, беларускасць нашага мастацтва характарызуе шматканфесійнасць і шматнацыянальнасць. Амаль 600 гадоў жывуць з намі татары, габрэі, жамойты і іншыя этнічныя меншасці з агульнымі ўжо культурнымі здабыткамі, прасякнутымі духам беларушчыны. Натуральна, што, напрыклад, мастак-габрэй па паходжанні будзе ўносіць у агульную панараму творчасці настрої і формы драматычнай змрочнасці ці гратэскавай іранічнасці, уласцівыя яго псіхалагічнаму светаўспрыманню; ці татарын будзе акцэнтаваць свае эмацыянальныя перажыванні праз кантрастнасць, сакавітасць колеру, дынаміку вобразных адлюстраванняў.

Але гэта ніяк не супярэчыць мастацкаму разуменню беларускасці, толькі ўзбагачае, «паліфаніруе», развівае яго, дадае адметнасці і рознаскладовасці.

Усё гэта сказана, каб падвесці да гутаркі пра творчасць класіка авангарда, выхадца з Беларусі, жывапісца парыжскай школы Хаіма Суціна. Як і ў іншых дзеячаў беларускай культуры габрэйскага паходжання з немаёмасных вялікіх мястэчковых сем'яў, цяжка цяпер дакладна аднавіць месяц і дзень яго нараджэння. Не вяліся, бадай што, метрычныя запісы пры сінагогах ды і сам мастак нічога канкрэтнага не мог прыгадаць у сталым узросце. Таму пачаткі яго жыцця, лічыцца, звязаны з канцом 1893 і наступным 1894 г. Якраз цяпер мы адзначаем яго 100-гадовы юбілей.

Няма сэнсу паўтараць ужо вядомыя старонкі біяграфіі творцы, пісаныя і перапісаныя ў капітальных выданнях на французскай і ангельскай мовах, а тым больш на рускай мове, дзе па адвечнай завядзёнцы аўтарам свярбіць афарбаваць у самыя шэрыя колеры і радзіму мастака, і цемрашальства местачковага габрэйскага жыцця. Хоць даўно вядома з аб'ектыўных гістарычных крыніц, што жыццё на Беларусі на пачатку XX ст. па многіх крытэрыях было больш упарадкаваным і маральна гарманічным, узорна-талерантным у параўнанні з «внутренними губерниями». Адкуль тут узяцца фанатызму, пагромным настроям, дзікунству, калі нат на кірмашах сустрэць на моцным падпітку чалавека было нялёгка. Калі ў адной габрэйскай сям'і існавалі не зусім узорныя адносіны паміж дзецьмі і не было разумення занятку мастацтвам аднаго з іх, гэта аніяк нельга падносіць як вызначальнае. Бо галоўнае — сувязі з зямлёю, на якой мастак нарадзіўся, сталеў, яго ўспрыманне наваколля, духоўны патэнцыял, з якім рушыў у вялікі свет. Факт нараджэння на Беларусі гэтага выдатнага творцы мусіць быць усебакова і ўважліва даследаваны, каб выключыць недарэчныя прыпадковыя суб'ектыўныя спасылкі з чужых вуснаў. Каб ізноў не выпаўзалі «смажаныя» факты, кшталту «голада, крыўды, зняваги, пабояў» і г. д., са стараннай кампелятыўнасцю падабраныя з расейскіх выданняў пра «малавядомага» мастака. Толькі і заставалася «затраўленаму» хлопчыку ўцякаць як мага далей з гэтага дзікунскага краю ажно ў Парыж...

Але лепш не звяртаць увагу на спробы навязвання вульгарызаваных уяўленняў аб мінуўшчыне Беларусі дабальшавіцкага часу з пазіцыі знарачытага прыніжэння ўсяго, што звязана з Беларушчынай, а скіравацца ў Смілавічы, у роднае гняздо мастака. Тут — яго пачатак, сцяжынкі яго дзяцінства, паветра, якое сфарміравала тонкую ўражлівую асобу. Раней за Менск, Вільню, Парыж Суціна былі яго Смілавічы. Гэта больш варты занятак для даследчыка, чым рэтрансляцыя чужых думак і высноў, якімі ніколі не вернеш на радзіму мастака, хоць і пісаць аб ім цэлыя фаліянты ці спяваць дыфірамбы, не шукаючы пры гэтым сувязі з родным домам.

Па невядомых яшчэ гісторыкам мастацтва кірунках набліжаемся да Смілавічаў Суціна. 25 кіламетраў ад Менска ў Магілёўскім напрамку хады экспрэс-аўтобусу — не больш чым 20 хвілін, а шлях гэты, аказалася, расцягнуўся амаль у сто год. Давайце будзем шчырымі: не лічылі сваім і не жадалі даследаваць, бо не ўпісваўся ён у прынятыя нормы, не падлягаў кананізацыі. Але зараз агульны абавязак перад уласным сумленнем і гісторыяй культуры выправіць памылку.

Смілавічы — прыгожы куток нашае Бацькаўшчыны. Праўда, многае яны перажылі за ваенныя і пасляваенныя гады. Многае страцілі ў сваім выглядзе, але жыве, цепліцца ў іх чулы і лагодны беларускі дух, які немагчыма вытравіць ніякімі сацыялістычнымі навабудамі і абсурдам люмпенізаванага ладу жыцця. З былой мэблевай крамы смілавічане адбудавалі царкву, рупяцца, каб і на вуліцах, і на падворку быў парадак. Гасцінна заўжды жылі тут і беларусы-праваслаўныя, і беларусы-каталікі. А побач з імі цэлымі вуліцамі месціліся татары, габрэі. У 1943 годзе «карычневыя» знішчылі местачковае габрэйскае насельніцтва, мала хто ацалеў. Пасля вайны засталіся толькі асобныя сем'і. І, відаць, ужо не адродзіцца тое асяроддзе звычайных, далучаных да тутэйшай беларушчыны местачковых габрэяў, што стагоддзямі жылі тут па-свойску, асяроддзе, з якога і выйшаў мастак. Не знайсці ўжо месца, дзе быў яго дом. Але як напамін — захаваліся старыя габрэйскія могілкі. Мо там спачываюць продкі мастака пад якой-небудзь плітой, каменнай, урослай у зямлю, з паўсцёртай вяззю высечаных надпісаў? Але, на жаль, старажылы ўжо не памятаюць і прозвішча такое — Суцін. Доўга дабіраліся даследчыкі да Смілавіч і многае, што магло б спрыяць адкрыццю мастака, знікла з часам. Праўда, шумяць, як і раней, над рэчкай Вольмай старыя вербы, па сцяжынках крочаць дзеці, абапіраючы на жэрдкі ля хат жанчыны — зусім як на абразах мастака апошніх год, што маляваў ён, мабыць, востра прыгадваючы дзяцінства, шукаючы адпаведныя матывы ў французскім асяроддзі, бо любіў працаваць з натурай. Таму і не дзіва, што старанна выпісаныя цёлкі ды парсючкі — вясковыя сімвалы на карцінах сусветна вядомага авангардыста.

У Смілавічах становіцца вобразна бліжэйшы Парыж Суціна, куды паехаў ён у 1912 годзе разам са сваім сябрам Міхаілам Кікоінам, сатаварышам па менскай вучобе ў выдатнага партрэтыста Я. Кругера і Віленскай мастацкай школе. Дарэчы, старэйшы на год ад Суціна гамяльчанін Кікоін таксама стаў вядомым мастаком парыжскай школы. Не ад «голаду і пабояў уцякаў» ён у Францыю, сын багатага камерсанта, але за падмацаваннем творчай самастойнасці скіраваўся, як і ягоны калега са Смілавіч. У парыжскім асяроддзі Манмартра і Манпарнаса ў Суціна з'явіліся новыя сябры — А. Мадзільяні, Ф. Збароўскі, ды й іншыя, з якімі ён дзяліў свае нядолі, радасці і здабыткі неўладкаванага творчага жыцця. І гэты асяродак Парыжа без снабізму, шчыры, дэмакратычны, стаў для яго свойскім, любым, натхняльным. Галоўнае, што ён мог быць там сабою, творча развівацца як неардынарная індывідуальнасць без розных нарматыўных карэктур. Са своеасаблівым экспрэсіяністычным буйствам, уласцівым толькі яго пэндзлю, маляваў нацюрморты, партрэты, пейзажы. Дзівіла багацце і выразнасць каларыту яго вельмі яскравых, але цудоўна згарманізаваных абразоў /а для экспрэсіянізму больш характэрна колерная дысгармонія/. З усяго натурнага матэрыялу, хай сабе гэта зашмальцаваны вулічны падлетак ці сушаная рыбіна з агуркам, ён рабіў жывапісныя перліны. Памятаеце, як у М. Багдановіча, маўляў, «ластаўка сваё гняздзечка робіць з бруду». Падтэкст відавочны — усё самае звычайнае, празаічнае ёсць найвыдатнейшы творчы матэрыял для высокамастацкага палёту. Сказана ў той самы час, калі наш зямляк ступіў на новую для сябе глебу.

Галоўнае, што на гэтай глебе ён шукаў і знаходзіў вобразы, родныя яму. У яго Парыжы, як і ў яго Смілавічах, багата простых «местачкоўцаў», што працуюць, сумуюць, перажываюць складаны лёс, сваёй непасрэднасцю глыбока зразумелых мастаку. Дазволю сказаць, што вачыма смілавічаніна Суцін успрымаў і адлюстроўваў паспалітых французскіх працаўнікоў і неардынарных асоб, якія яму былі блізкія па духу. Таму ўспрымаюцца такімі «збеларушчанымі» /блізкімі нам, беларусам, па сваіх настроях, перажываннях, выглядзе/ яго хлапчук-міністрант і дзяўчынка, прыбраная да першай камуніі ў каталіцкай канфесіі, розныя слугі, кухаркі, прыбіральшчыцы, кулінары. У іх партрэтах больш стану душы, чым вонкавай дакладнасці, і ў гэтым выяўляюцца ўсе тонкасці і таямніцы менталітэту, які меў і сам мастак, народжаны на нашай багатай агульнаеўрапейскімі традыцыямі зямлі. Нездарма ж ён, што ўжо стала фактам вядомым, хоць яшчэ як след не асэнсаваным, адзін з нешматлікіх авангардыстаў, які ніколі не адмаўляў для сябе музейных скарбаў мінулага, у прыватнасці Луўра. А прыгадайма, як К. Малевіч у партрэтах у позні перыяд творчасці апеляваў да сувязі розных мастацкіх эпох. Ці не той жа менталітэт?

У гісторыі еўрапейскага жывапісу 1-ай паловы XX ст. менавіта Хаім Суцін адыграў ролю з'яднальніка старых жывапісных традыцый і сучаснага мастацтва. Ён імкнуўся пераплавіць праз сваё ўласнае бачанне мастака-авангардыста класічныя стылёвыя формы, сюжэты, вобразы, мадэрнізуючы іх жывапіснае ўздзеянне. Толькі абапіраючыся ў сваёй вобразнасці на блізкую і каларытную глебу, ён мог дазволіць сабе такую грандыёзную задачу. Працаваў, удасканальваў сваю тэхніку паслядоўна і тэмпераментна ўсё сваё нядоўгае жыццё, якое было скарочана «карычневай» акупацыяй Францыі. Ён мог эміграваць у Амерыку, але не здольны быў жыць без сваіх «местачкоўцаў», і прайшоў разам з імі праз страту незалежнасці, гвалт у зоне беззаконня, у якую быў ператвораны цэнтр сусветнай культуры. Пасля няўдалай, запозненай аперацыі ў амаль канспіратыўных умовах ён адышоў з жыцця ў жніўні 1943 г. У той самы год, калі



*Партрэт Х. Суціна. Мастак Цераховіч.*



*Хлопчык-міністрант. 1927. Парыж.*

трагедыя знішчэння разыгралася і на яго радзіме — у Смілавічах.

Але Суцін-творца, вялікая і непаўторная індывідуальнасць сучаснага мастацтва, застаўся ў сваіх шматлікіх абразах. Полымя гэтага мастацтва не можа не заняцца і на сучаснай беларускай жывапіснай глебе. Тут для яе адпаведная атмасфера, дух, паветра, традыцыі, ад якіх запаліўся і сам мастак.

Юбілейны год толькі пачаўся і часу хапае, каб гэта ганаровае вяртанне мастака, злучыўшага беларускае і французскае мастацтва, стала як мага больш цёплым і ўрачыстым. Не могуць застацца ўбаку ад гэтае падзеі і Смілавічы. Найперш упарадкаванне местачковых могілак, як старажытных, так і з 1943 года. Можа, менавіта тут, на месцы пакут, і трэба паставіць мемарыяльны знак памяці мастака, які быў да скону са сваімі любымі сэрцу людзьмі і па-свойму падзяліў іх долю. А адной з вуліц, замест трафарэтных назоў савецкага часу, ці ж не гожа насіць імя славутага земляка? А гледзячы на наваколльную прыгажосць, сама напрошваецца ідэя правядзення ўсебеларускіх пленэраў жывапісцаў. І пачаць бы ўжо ў юбілейны год. У Менску, апроч Мастацкага музея, дзе павінна быць раней-пазней выстава Суціна /упершыню на Беларусі/, бо маем жа мы зрэшты дзяржаўныя сувязі з Францыяй, ёсць і друк, і радыё, і тэлебачанне. Няўжо гэты юбілей застанецца ў «зоне маўчання», як было раней з М. Шагалам, К. Малевічам, У. Стрэмінскім? Зараз вядзецца актыўная падрыхтоўка да вечарыны Х. Суціна ў Мастацкім музеі Беларусі, якая неўзабаве адбудзецца і, пэўна, вызначыць погляды і прапановы творчай інтэлігенцыі. Але і цяпер з поўнай адказнасцю можна сказаць, што пантэон беларускага мастацтва папоўніўся яшчэ годным імем — Хаіму Суціну тут належнае месца.

**Яўген ШУНЕЙКА**

*Фотарэпрадукцыі В. СТРАЛКОЎСКАГА*

## ПРЫВІТАННЕ З-ЗА АКІЯНА



**Мінск наведаў лаўрэат Нацыянальнай прэміі ў галіне дырыжорскага мастацтва, галоўны дырыжор сімфанічнага аркестра штата Нью-Мексіка Ніл Сталберг. Маэстра з Амерыкі правёў майстар-класы па дырыжыраванні ў Беларускай акадэміі музыкі, сустракаўся з беларускімі кампазітарамі, пазнаёміўся з фанаграмамі некаторых іхніх твораў, а таксама выступіў з Акадэмічным сімфанічным аркестрам Беларусі. Канцэрт адбыўся ў Вялікай зале філармоніі, і яго першае аддзяленне правёў малады мінскі дырыжор Вячаслаў Чарнуха. Другое аддзяленне было цалкам пад кіраўніцтвам маэстра Сталберга. Дырыжор высокага класа, ён наладзіў асаблівыя творчыя адносіны з аркестрам. Музыканты сканцэнтраваліся, чула адгукаючыся на кожны жэст маэстра, выконваючы найтанчэйшыя нюансы. Напачатку Н. Сталберг прапанаваў слухачам «Сімфанічныя танцы» С. Рахманінава. Потым гучалі творы амерыканскіх кампазітараў. Пасля сур'ёзнай, глыбокай музыкі А. Копленда выконваліся папулярныя амерыканскія мелодыі: бліскучыя варыяцыі Ч. Айвза, жыццярадасныя маршы, якія вымусілі залу ўстаць і апладзіраваць у рытме твораў. Дарэчы, зала, здаецца, нават разраслася ад таго станоўчага эмацыянальнага напалу, якім вылучаўся фінал канцэрта.**

**А. В.**

*На здымку: дырыжыруе Ніл СТАЛБЕРГ.*

*Фота С. ЛАБАНДЗІЕЎСКАГА*

Віншуем!

# ЖЫВОЕ, РОДНАЕ...

## Ларысе КАРОТКАЙ — 75

Памятаюцца часы студэнцтва. Не забываюцца колішнія сябры-таварышы, зберагаюцца ў памяці воблікі выкладчыкаў. Найперш тых, хто не прытрымліваўся слепа праграмы курса, а выкладаў прадмет жыва, не ўціскаючы яго ў загадзя рэгламентаваныя рамкі. Сярод іх — Ларыса Лявонцьеўна Кароткая, якая чытала нам, студэнтам тагачаснага аддзялення беларускай мовы і літаратуры філфака БДУ, старажытную літаратуру. Кажу — старажытную, хоць сам курс быў куды больш канкрэтызаваны — старажытная руская літаратура. Каб нават і гэтым лішні раз падкрэсліць, наколькі «старэйшы брат» абагнаў нас, грэшных, малодшых. Аднак Ларыса Лявонцьеўна знаходзіла магчымасць, каб паразважаць і пра творы, напісаныя калісь невядомымі на той час беларускімі аўтарамі.

І ўвогуле, *лекцыі Л. Кароткай ператвараліся* ў жывую гаворку. І не толькі пра літаратуру, а і пра час; і не толькі пра мінулае, а і пра цяперашняе. Ішоў, здаецца, шэсцьдзесят пяты год. Хрушчоўская адліга ўжо змянілася «замаразкамі». Праўда, лідэр застою яшчэ падбіраў сабе крэсла, тым не менш шмат пра што было ўжо гаварыць небяспечна.

Ларыса Лявонцьеўна ж не баялася гэтага. Менавіта з яе вуснаў пачулі студэнты з гісторыі Вялікай Айчыннай вайны нямала такога, пра што і сёння не кожны гатовы паведаць. Адчувалася, няпроста даецца такая праўда ёй. Сама ж перажыла ўсё гэта, на ўласныя вочы пабачыла. Як пад Валяр'янамі, напрыклад, партызаны жорстка распраўляліся, калі не сказаць дзіка, з узятымі ў палон паліцаямі...

Для нас гэта былі таксама лекцыі. Можа, у нечым нават больш важныя, чым па літаратуры. Пра тое, што расказвала Л. Кароткая, ні ў якіх падручніках прачытаць было немагчыма. Курса ж чалавеказнаўства, чалавекалюбства, душэўнай дабрыні і шчодрасці і па сённяшні дзень няма. Яна ж акурат гэты курс па-свойму выкладала нам. І што самае галоўнае: паведамляючы праўду, *жорсткую, бескапрамісную*, і ў думках не дапускала /неяк інтуітыўна гэта адчувалася і тады, але асабліва бачыцца цяпер, на адлегласці/, каб усё нядаўняе мінулае ачарніць. Праўда патрэбна была Ларысе Лявонцьеўне для таго, як мне здаецца, каб не трымаць на сабе чужой віны. Чужой, бо сама Л. Кароткая прайшла праз вайну сумленна і годна. Не кожнаму мужчыне такое па сіле, а яна ж была маладой жанчынай, дзяўчом, можна сказаць.

... Нарадзілася ў Астрашыцкім Гарадку пад Мінскам. У 1938 годзе скончыла Мінскі педагагічны інстытут, вярнулася працаваць у тую ж школу, у якой нядаўна вучылася сама. Хутка знайшла з вучнямі агульную мову. Захапілася мастацкай самадзейнасцю. Ставілі школьныя спектаклі, у тым ліку і «Партызаны» па аднайменнай п'есе Кандрата Крапівы. І падумаць не маглі, што неўзабаве самім давядзецца змагацца.

Пра мужнасць і гераізм падпольшчыкаў Астрашыцкага Гарадка падрабязна расказана ў аповесці Вольгі Сіманавай «Мы будзем жыць». Дарэчы, у напісанні гэтай аповесці В. Сіманавай дапамагла Ларыса Лявонцьеўна разам са сваімі вучнямі. Правільней, дапамог школьны рукапісны часопіс, аўтарамі яго сталі настаўніца і яе выхаванцы. Пасля вайны Л. Кароткая прапанавала дзецям: «Давайце раскажам пра подзвігі загінуўшых таварышаў!» На той час не было паперы, здабылі дзесьці канцылярскую кнігу. На вокладцы яе і з'явіўся надпіс «Літаратурна-мастацкі часопіс Астрашыцка-Гарадоцкай школы Мінскага раёна. Выданне літаратурнага гуртка «Маладыя парасткі», студзень 1945 года»...

Давялося Ларысе Лявонцьеўне настаўнічаць і ў вёсцы Талька Пухавіцкага раёна, і ў Прылуках — Мінскага... Нялёгка даводзілася. Але хіба лягчэй было, калі ў вайну засталася на руках з малалетнім сынам?! У пачатку вайны ўсяго два гадкі споўнілася яе любімаму Варлешу — будучаму вядомаму беларускаму крытыку і даследчыку літаратуры Варлену Бечыку.

Новыя турботы прынесла праца ва універсітэце. Магчыма, з-за гэтай пастаяннай занятасці, у тым ліку і справамі будзённымі, і друкавалася менш, чым хацелася. Пачатак жа быў пакладзены яшчэ ў 1947 годзе. Выкладала старажытную рускую і беларускую літаратуру, даследавала гісторыю свабодалюбства і атэізму на Беларусі. Разам з іншымі выкладчыкамі працавала над *складаннем хрэстаматый, навучальных* дапаможнікаў для студэнтаў. Так, у 1979 годзе выйшла хрэстаматыя «Старажытная руская літаратура ў даследаваннях» /склала разам з Л. Гусевай/. Прозвішча Л. Кароткай значыцца і на кнігах «Публіцыстыка XIII—XVI стст. у барацьбе з царкоўна-рэлігійнай ідэалогіяй» /1963/, «Антыцаркоўная сатыра XVII ст.» /1968/, «На шляху да атэізму. Антыцаркоўная традыцыя ў старажытнарускай літаратуры» /1971/.

Пісала і пра беларускую літаратуру. Са строгім адборам іменаў. У гэтым пераконвалі яе артыкулы, што з'яўляліся ў рэспубліканскай перыёдыцы. Пацвярджэннем таму і кніга Л. Кароткай «Жывое, роднае...», выпушчаная выдавецтвам «Мастацкая літаратура» ў 1989 годзе. Невялікая памерам, ды важкая зместам. Арыгінальнасцю разваг, своеасаблівым падыходам да прадмета гаворкі вызначаюцца артыкулы аб творчасці Івана Навуменкі, Ніла Гілевіча, Алега Лойкі. Пазнаваўчы матэрыял у нарысе «З Якубам Коласам». У ім Л. Кароткая прасочвае лёс колішняга сялянскага «бунтаўшчыка» з Астрашыцкага Гарадка Івана Сарокі, які сядзеў у адной камеры з маладым настаўнікам Канстанцінам Міцкевічам. Я. Колас вывеў Сароку пад сапраўдным прозвішчам у сваёй трылогіі «На ростанях». А артыкулы «Я — Бадыль!», «Гісторыя адной казкі і адной песні» — вяртанне ў вайну. Першы — пра юнака-падпольшчыка, колішняга выхаванца Ларысы Лявонцьеўны, другі — пра фальклорны твор, у якім па сутнасці прадугадана завяршэнне вайны. Дарэчы, гэтая прытча «Зоркавы горад» запісана ёю, апрацавана, як і верш «Запраглі дванаццаць сабак». Абодва творы змешчаны поруч з артыкуламі.

У пачатку кнігі «Жывое, роднае...» стаіць аўтарскае прысвячэнне: «Светлай памяці сына Варлена Леанідавіча Бечыка». Хіба знойдзеш словы, каб перадаць матчын боль?! І ці падыходзяць яны ў дадзеным выпадку, якімі б шчырымі не былі?

Ларыса Лявонцьеўна робіць усё магчымае, каб творчая спадчына сына прыйшла да чытачоў у як мага больш поўным аб'ёме. Дзякуючы ёй, пабачыла свет і унікальная кніга В. Бечыка «Радкі і жыццё» /1993/ — дзённік, што пісаўся для сябе, нараджаўся, як асабістая споведзь. Сёння гэта — факт літаратуры і ў пэўнай ступені ўзор той публіцыстыкі, што паядноўвае ў сабе грамадскае і асабістае.

Жыццё кожнаму з нас даецца прыродай. Але мы і самі робім яго. Учынкамі, справамі, дачыненнямі і ўзаемаадносінамі як з блізкімі, так і з чужымі людзьмі. Жыццё Л. Кароткай саткана з дабрыні і душэўнай шчодрасці. І хвалюе яе, кажучы словамі самой даследчыцы, усё «жывое, роднае...» У паўсядзённасці, у літаратуры.

З днём нараджэння, дарагая Ларыса Лявонцьеўна! Доўгіх Вам жыццёвых вёснаў і творчых поспехаў!

**Алесь МАРЦІНОВІЧ**

## ВІЦЕБСК АДРАДЖАЕ АВАНГАРД



**Адначасова ва ўсіх выставачных цэнтрах Віцебска прайшлі выставы-акцыі пад назвай «Праект Z». Пяць залаў знаёмілі з сучасным візуальным мастацтвам. Так было неаднойчы і не ў адным горадзе. Аднак выстава унікальная тым, што аўтарам усіх работ і арганізатарам экспазіцый з'яўляецца толькі адзін мастак — Васіль Васільеў. Аўтар «Праекта Z» — мастак-прафесіянал, мае дзве вышэйшыя адукацыі /мастацка-графічны факультэт Віцебскага педінстытута і манументальна-дэкаратыўнае аддзяленне Беларускай акадэміі мастацтваў/. Віцебскія гледачы ці не ўпершыню сустрэліся з такім яркім прадстаўніком беларускага авангарда. Іх увазе аўтар прапанаваў творчыя работы сямі апошніх гадоў, генезіс «жывапіс-аб'ект-канцэпт». Дзве выставы дэманструюць жывапісныя палотны ў класічным іх разуменні, экспанаты трох іншых экспазіцый — «чыстыя» абстракцыі. Палотны-знакі, аб'екты-сімвалы, парадоксы і ўзаемадзеянні з прасторай экспазіцый стварае атмасферу містычнай тайны быцця, дачынення Творцы і Пачвары. Экспазіцыі радыкальна-жорсткія па змесце і прынцыпова-лаканічныя па форме.**

Мікалай ПРУСАКОЎ

*Фота М. ШМЕРЛІНГА*

# «ВЕРУЮ Ў БЕЛАРУСЬ!»

*(Пачатак на стар. 4)*

— Канешне ж, усё, што адбываецца ў грамадстве, асабліва ў спецыфічных умовах Беларусі, не можа не ўплываць на мой настрой, як, прынамсі, і на душэўны стан кожнага нармальнага, сумленнага чалавека. Калі бачыш, як саноўнымі дачаснікамі, што губляюць апошні розум у зацягнутай па тэрмінах агоніі, прадаюцца дзеля сваіх карыслівых мэт інтарэсы незалежнай дзяржавы, як іхнімі маразматычнымі планамі дабіваецца дарэшты эканоміка, ствараюцца самыя спрыяльныя ўмовы для поўнага спусташэння і закабалення рэспублікі, для ўтварэння на яе тэрыторыі інтэрнацыянальнай крымінагеннай зоны, як спраўляюць баль на касцях Беларусі закансерваваныя, карумпіраваныя партнаменклатурныя «бонзы» і наваяўленыя «капіталісты», як кожны мізэрны, шэранькі чыноўнічак грабе ў кішэнь хабар, як даводзіцца да галоднага вымірання звычайны, просты люд, на лірыку надта не пацягне. Тут патрэбны іншыя жанры: памфлет, фельетон або публіцыстычны артыкул, верш. Але, на вялікі жаль, да нашага народа, затаптанага, затурканага, запалоханага за доўгія гады сталіншчыны, таталітарызму, і гэтымі сродкамі нялёгка дастукацца. Ён надта баіцца любога, самага плюгавага начальнічка. А яшчэ выдатны рускі сатырык мінулага стагоддзя Салтыкоў-Шчадрын сказаў: «Не надо путать начальство с Отечеством». Геніяльныя словы!

Што і казаць, наш час непаэтычны. Але, на маю радасць, усё ж прыходзяць такія хвіліны, калі хочацца плюнуць на гэтую пацуковую мітусню, на ўвесь гэты бруд і пісаць пра тое, што дорага табе, што, нягледзячы ні на якія змовы і здрады, застанецца навечна.

**— І над чым цяпер працуеце?**

— Надта высокі «шчыль» — працуеце. Якая там праца ў гэтым бедламе! Зрэдку, урыўкамі, па начах. Ды што зробіш, іншага выйсця няма. А вымалёўваецца невялічкая паэма, рэч для мяне вельмі важная.

**— А ці няма патрэбы паспрабаваць сябе і далей у галіне публіцыстыкі?**

— Ёсць. А некаторыя спробы ўжо сабраліся пад адной вокладкай. Нядаўна ў выдавецтве «Беларусь» у серыі «Плошча Свабоды» выйшла мая публіцыстычная кніга «Беларускае сэрца». Я шчыра дзякую ўсім, хто выпускаў яе ў свет. Кніжка невялікая, але каштавала мне многага, і таму радаваўся ёй не менш, чым свайму першаму зборніку вершаў. Дарэчы, у ёй ёсць артыкул «Святкаваць перамогу яшчэ рана», напісаны ў жніўні 1991 года, дзе маецца змрочны прагноз, што Беларусь можа стаць «бананавай рэспублікай» з усімі атрыбутамі такога ладу. Дык вось, гэты час надышоў...

**— Само сабою напрошваецца пытанне, якое нельга не задаць. Як сказваецца ваша асноўная праца на творчасці?**

— Клопатаў у мяне, як і ва ўсіх людзей, хапае. Усе мы цяпер не жывём па-чалавечы, а спрабуем, хоць неяк, выжыць, не памерці. Гэта тычыцца і звычайнага жыцця, і літаратурнага. Пісьменнікі воляю нашых улад сталі самымі абяздоленымі людзьмі. Параўнайце іхнія заробкі з акладамі і зарплатаю іншых. Вось тут табе і ўся статыстыка, і ўся наша культура!

Раней галоўны рэдактар часопіса меў магчымасць у асноўным засяроджвацца на творчым працэсе. Сёння даводзіцца займацца і гэтым, і яшчэ нямаведама чым, каб не даць загінуць «Полымю», якое нядаўна адзначыла сваё 70-годдзе, якое блаславілялі ў жыццё Янка Купала і Якуб Колас. А такая змрочная перспектыва для ўсіх беларускамоўных выданняў ужо замаячыла.

Шмат часу з'ядаюць і грамадскія нагрузкі, выступленні і г. д. Але ведаю, што сёння неабходна ісці да людзей, быць з імі, што гэтая праца таксама вельмі патрэбная. І, можа, не зусім марная. А пішу познімі вечарамі, ноччу, а яшчэ тады, калі прыхварэю, у час чарговага адпачынку.

**— А чым у бліжэйшы час парадуе нас «Полымя», якімі творамі?**

— Спадзяюся, што нашы падпісчыкі, сталыя і верныя сябры «Полымя» ўжо азнаёміліся з першым і другім нумарамі часопіса за гэты год. Думаецца, што ў іх ёсць што пачытаць і ў прозе /асабліва выдатныя апавяданні Васіля Быкава, раман Міколы Кусянкова «Явар з калінаю»/, і ў іншых раздзелах і рубрыках. Будзем старацца і надалей рабіць часопіс змястоўным.

Калі гаварыць пра нейкія канкрэтныя творы, што запланаваны, то назваў бы апавяданні і аповесці Янкі Брыля, Віктара Казько, Янкі Сіпакова, трагедыю Аляксея Дударава «Купала», цікавую, арыгінальную аповесць Уладзіміра Ліпскага «Аўцюкоўцы», якая сведчыць, што і ў сваім гаротным становішчы беларусы не развучыліся смяяцца. Будзем друкаваць новыя вершы Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Рыгора Барадуліна, Ніла Гілевіча, Васіля Зуёнка і маладзейшых паэтаў. Думаю, што чытачы не абмінуць артыкулы Я. Янушкевіча «Неадменны сакратар Адраджэння», В. Герасімава «Да праўды светлай, братка, йдзі» ці, скажам, успаміны *нашага земляка, чалавека цікавага лёсу* Х. Мачульскага «ГУЛаг звонку і з сярэдзіны», матэрыялы, якія даслала мне Галіна Максімаўна Гарэцкая — дачка выдатнага беларускага пісьменніка Максіма Гарэцкага. Усё пералічыць проста немагчыма.

Карыстаючыся гэтай нагодаю, хачу запэўніць нашых пастаянных сяброў і тых, хто захоча *далучыцца да «палымянскай кагорты»*, што вы не пашкадуеце, калі аддасце 1500 рублёў /а пачак «Космасу» каштуе сёння болей!/ і выпішыце часопіс на другі квартал, калі застанецеся з намі і надалей.

**— Няхай апошняе пытанне вы самі задасце сабе...**

— У што ты верыш, браце?

***— Калі ласка, адказ...***

— Верую ў Беларусь!

Вера жыццёвая і вера творчая ў С. Законнікава ўзаемазвязаны. Гэтаксама, як самым цесным чынам злучаны мастакоўскія і рэдактарскія памкненні.

На пісьмовым стале пісьменніка — рукапісы. Не пытаюся ў Сяргея Іванавіча — яго асабістыя ці аўтарскія. Здагадваюся, ведаю: і тыя, і другія. Аднолькава патрэбныя нам, чытачам!

# ВАНДЭЙЦЫ НЕ ДАРУЮЦЬ ЯМУ І СЁННЯ

(Пачатак на стар. 3)

І, думаю, нават і Росцікаў не возьмецца сцвярджаць, што яна ў гэтым паўстанні за інтарэсы мужыка змагалася, а не за свае прывілеі, не за тое, каб і надалей сядзець у мужыка на шыі. Не, людзі, якія ўзначалілі паўстанне, нічога не збіраліся мяняць у жыцці мужыка — ні на ёту! Ні ў яго жыцці, ні ў жыцці ўсёй Францыі. «Назад, толькі назад!» — вось што было іх патаемным заклікам. Прыціснуць краіну чыгуннай плітой абсалютызму яшчэ больш жорсткага, каб і павеву якіх бы то ні было вольных ідэй не засталося! Назад — у сярэднявечча!.. Так што Вандэя не толькі сімвал сялянскага паўстання, сімвал супраціўлення рэвалюцыйнаму гвалту з боку вёскі, найбольш адданай традыцыям, але і сінонім тупагаловага кансерватызму вярхоў, **сінонім рэакцыі.** Прычым даўно ўжо не толькі французскай, але і любой іншай. Менавіта гэта і меў на ўвазе Алесь Адамовіч, калі ўжыў слова «Вандэя». /Тут, дарэчы, можна нагадаць журналісту яшчэ пра тое-сёе, што ён кепска засвоіў у сярэдняй школе — пра паняцці, якія даўным даўно адарваліся ад сваёй першапачатковай канкрэтыкі, пераасэнсаваліся, зажылі больш шырокім жыццём абагульнення, набылі новы ці дадатковы сэнс. Таму калі журналіст настойвае на адзіным змесце, на адзіным сэнсе слова «Вандэя», адкідваючы другі, то я смела, не баючыся, што ён кінецца ў суд з абвінавачваннем мяне ў абразе ягонага гонару, мог бы назваць яго не толькі вандэйцам, але і дэмагогам, паколькі ў Старажытнай Эладзе слова «дэмагог» азначала «друг народа». І, значыць, у журналіста ёсць повад узганарыцца ўдвая!../

Вернемся, аднак, да сутнасці справы.

Сказаўшы: «Вандэя», Алесь Адамовіч сказаў аб людзях, якія, чапляючыся за свой учарашні дзень, пастаянна азіраючыся назад, даўно скамянелі, ператварыліся, як біблейская жонка Лота, у каменные слупы. І не трэба, пардон, «вешаць нам лапшу на вушы», сцвярджаючы, быццам Адамовіч гаварыў аб усёй Беларусі, аб усім яе народзе — размова ішла пра «столбовое дворянство», пра засеўшых у «вялікіх дамах» цэкоўскіх «герцагах» і «маркізах», абкамаўскіх «віконтах» і райкамаўскіх «шэвалье», якія сцяной паўсталі на шляху абнаўлення грамадства, каменнымі грудзямі загарадзілі выйсце з тупіка, у які разам са сваімі «каралеўскімі патронамі» з імперскага цэнтра завялі краіну, манапольна і бескантрольна кіруючы ёю сем з гакам дзесяцігоддзяў. О, так! У іх было і застаецца па сённяшні дзень адно карэннае адрозненне ад вандэйскай знаці 1793 года, з якой іх параўнаў Алесь Адамовіч. **Тыя вандэйцы ніколі не былі рэвалюцыянерамі, а нашы — былі.** І радавод свой вядуць не ад сялянскіх паўстанцаў, а ад іх катаў, ад якабінскай дыктатуры, чый вопыт яны гэтак старанна выкарысталі і ўзбагацілі, калі крыважэрна падаўлялі сялянскія паўстанні. І Тамбоўскае і Заходне-Сібірскае ў Расіі, аб якіх нагадаў у Люксюр-Булонь Салжаніцын, і Слуцкае на Беларусі, аб якім ён, на жаль, не ўспомніў, і калі давілі Кранштацкі мяцеж, расстрэльваючы апранутых у матроскія бушлаты мужыкоў, і калі спальвалі «басмацкія» кішлакі ў Сярэдняй Азіі, і калі тапілі ў крыві венгерскае народнае паўстанне 1956 года, і калі кінулі свае танкавыя армады на Чэхаславакію, дзе і паўстання не было, а толькі «брожение умов», рамантычнае памкненне грамадства да «сацыялізму з чалавечым тварам»...

Не, не ўдасца журналісту Росцікаву даць «адлуп» Алесю Адамовічу, прыкрываючыся Салжаніцыным, выдаючы Салжаніцына за «вандэйца»! Гэта не толькі махлярства, але і кашчуннасць: што журналіст павінен быў бы разумець, калі, вядома, ён чытаў не толькі прамову Салжаніцына ў Люксюр-Булонь, а яшчэ «Адзін дзень Івана Дзянісавіча», і ў «Крузе першым», і «Архіпелаг Гулаг». Можна, аднак, падумаць, што нічога гэтага ён не чытаў, таму, што, называючы Салжаніцына «паслядоўным антырэвалюцыянерам», ніводнага слова не кажа пра тое, што Салжаніцын не проста антырэвалюцыянер, а перш за ўсё **паслядоўны антыкамуніст**, што ён тое «цяля», якое «бадался з дубам» камуністычнай імперыі, з дубам «чырвонай Вандэі», чым у немалой ступені падрыхтаваў — ідэйна і маральна — ненавісную нашаму журналісту «перабудову». Ды што гэта я! Усё наш журналіст чытаў, а сарамліва замоўчвае антыкамунізм Салжаніцына таму, што інакш не ўдаецца супрацьпаставіць Салжаніцына Адамовічу, інакш атрымліваецца, што, калі размова ідзе пра «чырвоную Вандэю», Аляксандр Ісаевіч Салжаніцын цалкам **згодны** з Аляксандрам Міхайлавічам Адамовічам. Дарэчы, згодны ён з ім ці не згодны, наогул пра тое, хто такі Алесь Адамовіч, што ён значыць як пісьменнік, як грамадзянін, як асоба, журналіст мог бы спытаць у самога Салжаніцына, узяць ды і затэлефанаваць да яго ў штат Вермонт, калі ўжо вырашыў браць Аляксандра Ісаевіча ў свае саюзнікі. А то, калі меркаваць па артыкуле нашага журналіста, ён і пра Адамовіча, як і пра Вандэю, мае самыя павярхоўныя ўяўленні. А Салжаніцын быў знаёмы з Адамовічам асабіста — яшчэ з тых часоў, калі Алесь наклікаў на сябе змрочную няміласць «вандэйцаў», адмовіўшыся ўдзельнічаць у цкаванні пісьменнікаў Сіняўскага і Даніэля, якіх судзілі «за антысаветызм», яшчэ з тых часоў, калі «Вандэя» здавалася непарушнай, вечнай, і толькі бескампрамісна сумленныя людзі маглі сысціся на яе адмаўленні. І ці ведае наш журналіст, што, калі Салжаніцын апынуўся ў выгнанні, калі ягонае слова прабівалася да нас праз шалёнае выццё глушылак, у слове гэтым неаднойчы называлася імя Алеся Адамовіча — у ліку імёнаў тых, каго ён, Салжаніцын, глыбока паважае, каго лічыць сапраўднымі пісьменнікамі і прыстойнымі людзьмі? Таму не сумняваюся, што, прачытаўшы фразу журналіста, у якой ён прыплюсаваў Алеся Адамовіча да людзей «з тэатральнымі жэстамі і палітычным авангардызмам у крыві», да людзей, якія «прывыклі папулісцкі жангліраваць словамі», Аляксандр Ісаевіч сказаў бы коратка: «Нізасць!»

Зрэшты, Адамовічу не ўпершыню выслухоўваць абразы «вандэйцаў». Ён і тут стаіць побач з Салжаніцыным, бо і на яго, на Алеся, яны наклейвалі тыя ж ярлыкі, што і на Аляксандра Ісаевіча: «антысаветчык», «ілжэгуманіст», «дэгераізатар», «дзёгцемаз». А цяпер і да «падпальшчыка» дайшло. Во, зірніце: журналіст піша ў сваім артыкуле, што тады, пяць год назад, калі Алесь Адамовіч «абазваў Беларусь «Вандэяй», яна, гэта значыць, Беларусь, «уяўляла сабою прыклад вытрымкі, спакою і міралюбства», а яе народ «вызначаўся талерантнасцю, узважанасцю, разважнасцю, нежаданнем увязвацца ў сутычкі і склокі». І Адамовіч, маўляў, таму і ўхапіўся за слова «Вандэя», што быў разззлаваны міралюбствам Беларусі, з чым яго натура падпальшчыка /«палітычны авангардызм у крыві»!/ пагадзіцца не магла. Але чаму б журналісту не зазірнуць спачатку ў свае «вандэйскія святцы» і не пацікавіцца: а ў чым жа абвінавачвалі Адамовіча менавіта тады, пяць год назад? Калі б зазірнуў, можа, і не аказаўся б у дурнях. Таму што ў «святцах вандэйскіх» таго часу, у часопісіку «Политический собеседник», N 1, за 1988 год, у артыкуле В. Бегуна і В. Боўша «З пазіцый абстрактнага гуманізму», Адамовіча б'юць за — «буржуазны пацыфізм» і «буржуазны гуманізм»! За прапаведванне **«непротивления злу насилием»**! За яго заклікі да ядзернага раззбраення! За талерантнасць! За «гнілы лібералізм»!

Што зробіш, ніколі не мог Адамовіч дагадзіць «вандэйцам». Не мог былым, не можа і цяперашнім. Ды зноў — што гэта я? Былыя — яны і ёсць цяперашнія. Дужа «талерантныя» і «разважлівыя». І пераканацца ў іхняй «талерантнасці», той, пяцігадовай даўнасці, можна не толькі на прыкладзе таго, як яны абыходзіліся з Адамовічам, але і на многіх іншых. У прыватнасці, шалёны чарнасоценны лямант, узняты ў тым жа «Политическом собеседнике» вакол імя Марка Шагала /«сіяніст», «авангардыст», сцэны ў сінагозе распісваў, а тут нататку пра яго ў Беларускую Энцыклапедыю спрабуюць праціснуць!/ вельмі быў «талерантны». І заклік да рабочага класа рэспублікі, абнародаваны на старонках газеты Мінскага гаркама КПБ у травені 1988 года, таксама быў дужа «талерантны», распальваючы класавую нянавісць рабочых да творчай інтэлігенцыі, ад якой, маўляў, усё зло.

Аднак вяршыняй «талерантнасці» і «ўзважанасці» быў разгон святкавання «Дзядоў» 30 кастрычніка 1988 года. Эпізод, пра які журналіст Росцікаў выказваецца з усмешачкай: гэта, маўляў, была «лёгкая патасоўка, падчас якой некага стукнулі дубінкай па галаве, а двух-трох з «вецярком» пакаталі ў міліцэйскім газіку». Малюнак амаль ідылічны і лішні раз, на думку журналіста, пацвярджае, што ў эпоху «разгула перабудовы і галоснасці» Беларусь жыла ціхім, мірным, патрыярхальным жыццём камуністычнага хутара...

І вось тут я разумею Росцікава. Мяркуючы па яшчэ адным яго артыкуле, «Людзі і ідалы», надрукаваным у «Рэспубліцы» 16 лістапада 1993 года, «Дзяды яму, як той казаў, «да лямпы». Яго хвалююць зусім іншыя дзяды — крамлёўскія, тыя, чые магілы ў Маскве, на Краснай плошчы. Ён увекавечваннем іх памяці заклапочаны, ён занепакоены, што іх магілы могуць знікнуць. Асабліва яго засмучвае маючае адбыцца перазахаванне галоўнага крамлёўскага дзядулі, які ляжыць пакуль што ў сваім маўзалеі, — журналіст называе перанос гэтага дзядулі з маўзалея на звычайныя могілкі глумленнем над нябожчыкам. І гэта, вядома, яго, журналіста, клопат, яго боль. Але ці можна пры гэтым зневажаць магілы нашых дзядоў, продкаў нашых? Няўжо не сорамна здзекавацца з таго, што адбылося тады на Маскоўскіх могілках? Не сорамна хіхікаць і маніць, што гэта была «лёгкая патасоўка»? Відаць, не сорамна. Відаць, такая этыка ў «вандэйцаў». Ды і чаму б не? Ніхто ж не быў пакараны за тую першую ў былым Саюзе спробу гвалтам спыніць дэмакратызацыю грамадства, пусціць кроў «так званай дэмакратыі», «так званаму Народнаму фронту», «так званаму адраджэнню». І, дарэчы, Алесь Адамовіч папярэджваў тады, што, калі «вандэйскія» дзяржымарды» не будуць пакараны, то пойдуць далей. І далей былі Баку, Сумгаіт, Вільня... Далей пачалася і працягваецца па сённяшні дзень злавесная перагрупіроўка ўсіх сіл імперскага рэваншу. Ідзе іх контрнаступленне...

Менавіта таму і нельга прайсці міма артыкула ў «Рэспубліцы». Таму што ўсё больш гучна і бесцырымонна задае тон «Вандэя», чый сацыяльны заказ і выканаў журналіст Росцікаў, таму што «вандэйцы» з новым імпэтам узяліся цягнуць нас назад — «у светлую будучыню ўсяго чалавецтва», таму, што парламенцкая большасць, знаходзячыся ў стане разумовай каталепсіі, не здольна і не жадае хоць бы паспрабаваць **самастойна** выцягнуць Беларусь з багны, прыгатаванай нам нашчадкамі якабінцаў яшчэ ў кастрычніку 1917-га. А не жадае таму, што ўсё яшчэ чакае, як чакала ўсе гады «перабудовы», што гісторыя павернецца назад. І вернуцца камуністычныя Бурбоны — у сталінскіх ботах і ў пенснэ Берыі, з брэжнеўскай ухмылкай на раскормленым твары. Іншы зыход для «вандэйцаў» раўназначны канцу свету. Таму яны гэтак ненавідзелі і ненавідзяць Алеся Адамовіча — за тое, што ён быў адным з тых, хто дапамагаў гісторыі цягнуць яе воз наперад, у нармальнае дэмакратычнае грамадства, не ў ілюзорны, утапічны рай на зямлі, а ў звычайнае, дастойнае чалавека жыццё. У жыццё, у якім раскрываецца і пануе «я» кожнага чалавека, кожнай асобы, а не мурашынае «мы». Многім гэта не даспадобы, у тым ліку, здаецца, і журналісту Росцікаву.

**Валянцін ТАРАС**

**P. S. Не ведаю, ці быў журналіст на грамадзянскай паніхідзе ў Доме літаратара, дзе беларуская сталіца развіталася з Алесем Адамовічам. Можа, і быў. Бо на паніхіду прыйшлі не толькі сябры і калегі пісьменніка, не толькі тысячы ўдзячных яму чытачоў, але і яго нядобразычліўцы — не адмовілі сабе ў задавальненні зірнуць на мёртвага льва... Але ў гарадскім пасёлку Глуша, што на Магілёўшчыне, дзе Алеся хавалі, нядобразычліўцаў і выпадковых зявак не было. Там быў народ. Яго народ. Герой яго кніг і вярхоўны яго суддзя. І ўвесь гэты народ — уся Глуша, і людзі з навакольных вёсак, і з Асіповіч, і з Бабруйска — у журботным маўчанні амаль два кіламетры ішлі за яго трунай. І неслі яе на руках — два кіламетры. І ніхто, ні адзін чалавек не пакінуў гэтага журботнага шэсця. Ішлі, маўчалі, уціралі слёзы, думалі. І ўсміхаліся таксама — сумней, але і светлай разам з тым усмешкай, такой жа простай і разумнай, якая была ў Алеся. Усмешкай жыцця ў суровыя, выпрабавальныя часіны. І падумалася, што шэсце гэтае, народнае гэта пахаванне Алеся — лепшы адказ усім паклёпам, усім пасквілям на выдатнага пісьменніка, вялікага грамадзяніна Беларусі.**

**В. Т.**

**Саюз пісьменнікаў Беларусі выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Алесю Масарэнку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці брата Яўгена Герасімавіча.**

**Калектыў рэдакцыі часопіса маладых літаратараў Беларусі «Першацвет» выказвае глыбокае спачуванне галоўнаму рэдактару Алесю Масарэнку з выпадку напаткаўшага яго гора — заўчаснай смерці брата.**


ЛіМ

*Заснавальнікі:*

***Саюз пісьменнікаў Беларусі і Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь***

***Выходзіць з 1932 года***

*Газету рэдагавалі*
*Х.Дунец (1932-35)*
*І.Гурскі (1935-41)*
*А.Куляшоў (1945-46)*
*М.Горцаў (1947-49)*
*П.Кавалёў (1949-50)*
*В.Вітка (1951-57)*
*М.Ткачоў (1957-59)*
*Я.Шарахоўскі (1959-61)*
*Н.Пашкевіч (1961-69)*
*Л.Прокша (1969-72)*
*Х.Жычка (1972-76)*
*А.Асіпенка (1976-80)*
*А.Жук (1980-86)*
*А.Вярцінскі (1986-90)*

*Галоўны рэдактар*
***Мікола ГІЛЬ***





*АДРАС РЭДАКЦЫІ:*
***220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.***

*ТЭЛЕФОНЫ:*
*прыёмная рэдакцыі 332-461*
*намеснікі галоўнага рэдактара 332-525, 331-985*
*аддзелы:*
*публіцыстыкі 332-525*
*пісьмаў і грамадскай думкі 331-985*
*літаратурнага жыцця 332-462*
*крытыкі і бібліяграфіі 332-204*
*паэзіі і прозы 332-204*
*музыкі 332-153*
*тэатра, кіно і тэлебачання 332-153*
*выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў 332-462*
*навін 332-462*
*мастацкага афармлення 332-204*
*фотакарэспандэнт 332-462*
*бухгалтэрыя 268-640*





*Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах*
*Друкарня "Беларускі Дом друку"*
*Індэкс 63856. Наклад 19.000.*
*Нумар падпісаны 3.03.1994 г.*

П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

